незалежная газета

№ 6 (700) 9 лютага 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Дзембельскі альбом фатографа Сяргея Гудзіліна

Старонка 11



## Багданкевіч: Раманчук — проста слабы чалавек

Старонка 3

### Тэндэнцыі

## Краіна без запасаў

Золатавалютныя рэзервы за студзень скараціліся амаль на $690 мільёнаў. А магчыма, і на 1,5 мільярда. **Старонка 2.**

### У НУМАРЫ

**Дух из туалетища: Рубінаў яшчэ і паэт**

Старшыня савета рэспублікі нацыянальнага сходу Анатоль Рубінаў разрадзіўся адразу двума зборнікамі. **Старонка 7.**

Я скажу вам чэсна і адкрыта,
Нічыво ў душы не ўтая:
Адабраць уладнае карыта —
Толькі паспрабуйце ў міня!
**Старонка 7.**

**Дыплом на тэму «Апошні дыктатар Еўропы»**

абараніла студэнтка Таццяна Зарэмбюк. **Старонка 7.**

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Данон, выйдзі вон!

Лукашэнка наладзіў паказальную лупцоўку франка-расійскай кампаніі «Данон-Юнімілк». **Старонка 4.**



АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

## Мая Абромчык: Я не хачу з'язджаць з Беларусі

Старонка 8.

# «Мясніковічы ніколі ў КДБ працаваць не будуць!»

Рэпартаж са Снова — радзімы новага прэм'ера.

Разумны рыначнік ці «моцны гаспадарнік»? Першы беларускі мільянер, які пачаў кар'еру на рытуальных паслугах, ці сумленны дзяржаўны служачы, які будуе сабе жыллё ў крэдыт?



«Недаакадэмік», з якога смяялася палова Акадэміі навук, ці прагрэсіўны навукоўца-эканаміст?

Лепш за ўсё Міхаіла Мясніковіча ведаюць тыя, хто сябраваў з ім да пачатку ягонай мінскай кар'еры. Новы Сноў, Горны Сноў, Сноў — вось тры населеныя пункты, адкуль выбівалася ў людзі цяперашняя другая асоба краіны.

### Заможныя Мясніковічы

Цяперашні прэм'ер-міністр нарадзіўся на хутары каля Новага Снова — акуратненькай вёсачцы на пару дзясяткаў двароў, што знаходзіцца за кіламетр ад асноўнага Снова. Там, наводшыбе, стаяла вялікая сядзіба. У адной хаце жылі бацькі Міхаіла Уладзіміравіча і ягоны нежанаты дзядзька, па другі бок жыў іншы дзядзька.

Працяг на старонцы 9.



PHOTO.BYMEDIA.NET

## Ураган «Нікалас» зменіцца лютымі маразамі

Старонка 2.

# Краіна без запасаў

Золатавалютныя рэзервы за студзень скараціліся амаль на $690 мільёнаў.

Беларускія рэзервы скурчыліся да памеру паўтарамесячнага аб'ёму імпарту з невялікім. Банкрутства Беларусі пакуль не пагражае, але патрэбны тэрміновыя антыкрызісныя меры.

Паводле папярэдніх звестак, золатавалютныя рэзервы Беларусі, разлічаныя па стандартах МВФ, за студзень 2011 года зменшыліся на $687,7 млн і на 1 лютага склалі $4,343 млрд.

Ва ўпраўленні інфармацыі Нацыянальнага банка адзначаюць, што «зніжэнне золатавалютных рэзерваў з'яўляецца характэрнай для студзеня з'явай і назіраецца на працягу ўсяго перыяду разліку гэтых паказчыкаў». Сапраўды, кожны люты аб'ём золатавалютных рэзерваў падае ў параўнанні са студзенем, але папярэднія гады лічбы зніжэння былі нашмат меншымі. Напрыклад, у 2010-м годзе падзенне склала $380 мільёнаў, у постдэвальвацыйным 2009-м — усяго $133 мільёны.

«Наяўны ўзровень рэзерваў з'яўляецца дастатковым для падтрымання стабільнага курсу рубля. Тым не менш, у мэтах умацавання макраэканамічнай і фінансавай стабільнасці прымаецца цэлы комплекс дадатковых мер, накіраваных на павелічэнне ўзроўню золатавалютных рэзерваў», — паведамляе Нацбанк.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**10 гадоў таму былі два курсы валют і працавалі валютчыкі. Няўжо такое можа паўтарыцца?**

### Вярнуліся на ўзровень пачатку крызісу

За 2010 год золатавалютныя рэзервы Беларусі знізіліся амаль на $622 мільёны. Прычым актывы ў замежнай валюце скараціліся яшчэ больш катастрафічна. Найвышэйшы ўзровень золатавалютных рэзерваў быў дасягнуты ў красавіку 2010 года, калі паказчык склаў $6,073 мільярда. З таго часу назіраецца пастаяннае падзенне, за выняткам верасня—кастрычніка.

Цікава, што перад пачаткам сусветнага фінансавага крызісу, які пачаў уздзейнічаць на беларускую эканоміку ўвосень 2008 года, золатавалютных рэзерваў было прыблізна столькі ж, колькі і зараз, — каля чатырох з паловай мільярдаў даляраў.

Варта адзначыць, што ўзровень золатавалютных запасаў у Беларусі ў прапорцыі да ВУП застаецца адным з найніжэйшых у Еўропе.

Валютныя запасы — гэта свайго роду падушка бяспекі для эканомікі. МВФ рэкамендуе, каб яны складалі не менш за вартасць 3-месячнага аб'ёму імпарту краіны. Між тым, памер беларускага імпарту за лістапад 2010 года склаў $3,77 мільярда, а за верасень—лістапад — больш за $10 мільярдаў. Запас, нагадаем, складае 4,34 мільярда.

Апошні раз беднасць валютных запасаў Беларусі дала пра сябе знаць у ліпені, у часе газавага канфлікту з Расіяй, калі краіна элементарна не мела свабодных грошай, каб расплаціцца па расійскіх патрабаваннях. Тады выручыў Азербайджан, які зрабіў для нашай краіны тэрміновую пазыку.

Імклівае падзенне рэзерваў не азначае банкруцтва. На грэбені фінансавага крызісу 2008 года яны былі на ніжэйшым узроўні. Але сітуацыя вымагае тэрміновых антыкрызісных мераў. Можна чакаць новых абмежаванняў на валютным рынку і далейшых спробаў абмежаваць імпарт.

**Сяргей Гезгала, Яўген Васількоў**

**Трывожны рэкорд**

Валютныя запасы дасягнулі рэкордна нізкага ўзроўню з вясны 2007 года — усяго $1,285 млрд.

Невядома, ці ў гэтую суму ўключаны ўжо $800 млн ад продажу еўрабондаў, ажыццёўленага ў студзені. Гэта сакрэтная інфармацыя Мінфіна.

## Нацбанк уводзіць новыя абмежаванні на куплю валюты

Яны скіраваны на банк, але іх могуць адчуць і грамадзяне.

Згодна з новай інструкцыяй Нацбанка, з лютага 2011 года ўводзіцца абмежаванне на пакупку валюты банкамі. Зараз ім дазваляецца купляць на біржы столькі валюты, на колькі аб'ём валюты, прададзенай насельніцтву, перавысіў аб'ём валюты, здадзенай людзьмі. Напрыклад, у студзені насельніцтва купіла ў банкаў каля $632 мільёнаў даляраў, а прадала банкам усяго $612 мільёнаў. Значыцца, у наступным месяцы банкі змогуць купіць на валютна-фондавай біржы не больш за розніцу — $20 мільёнаў. Калі ж праз пэўныя прычыны попыт на даляры і еўра рэзка ўзрасце, насельніцтва сутыкнецца з дэфіцытам наяўнай валюты ў абменніках.

Гэтыя меры скіраваны на зніжэнне дэфіцыту валюты. У выніку перавышэння імпарту над экспартам у 2010 годзе і студзені 2011 года золатавалютныя запасы Нацбанка зніжаліся, нягледзячы на вялікія аб'ёмы замежных запазычванняў.

**ЯВ**

## Снапкоў абяцае падняць заробкі да 80% ад зарплат суседзяў

Але адначасова падаражэе камуналка, знізяцца субсідыі.

Сярэдняя зарплата ў Беларусі да 2015 года складзе не менш як 80% ад сярэдняга заробку ў сумежных еўрапейскіх краінах. Пра гэта заявіў міністр эканомікі Мікалай Снапкоў на ўрадавым пасяджэнні.

Частка прыросту заробкаў будзе ісці на павелічэнне аплаты жыллёва-камунальных паслуг. «Да канца пяцігодкі плануецца выйсці па аплаце насельніцтвам паслуг ЖКГ як мінімум на 60%, па электрычнасці і газу — на 100%», — дадаў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

**ЯВ**

### Сцісла

• **Ураган «Нікалас» прыйшоў у Беларусь.** У аўторак адбылося рэзкае ўзмацненне ветру. Яго хуткасць вырасла да 15—22 метраў у секунду, а месцамі да 25—27 метраў у секунду. Вецер прынёс з сабой таксама дажджы і мокры снег. А вось пасля цыклону ў Беларусь накіруюцца арктычныя паветраныя масы. Пад канец тыдня схаладае да мінус 15—18 градусаў, месцамі пры прыясненнях будзе да мінус 24.

• **Лукашэнка ў адпачынку ад 7-га, а коўзаўся ў Сочы ўжо 5-га.** 5 лютага жыхары Сочы назіралі Аляксандра Лукашэнку і яго маленькага сына Колю на трасах гарналыжнага комплексу «Красная Паляна». Са словаў відавочцаў, яны каталіся на самай крутой трасе гарналыжнага цэнтра — у зоне F. «Беларуская дэлегацыя» была апранутая ў яркія аранжавыя касцюмы, піша сочынскі Maks-партал.

• **Аб тым, што Лукашэнка знаходзіцца на адпачынку, яго прэс-служба паведаміла толькі 7 лютага.** Як і простыя грамадзяне, Лукашэнка вырашыў далучыць да водпуску ўік-энд.

• **Някляева дапыталі ў КДБ.** Упершыню пасля змены меры стрымання на хатні арышт экс-кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева вазілі на допыт у КДБ. Допыт прайшоў 7 лютага і цягнуўся каля гадзіны.

• **18-гадовая дзяўчына загінула пад коламі дызеля, бо была ў слухаўках.** Трагедыя адбылася 5 лютага ў Баранавічах. Навучэнка Баранавіцкага каледжа сферы абслугоўвання была ў навушніках і капюшоне і не пачула сігналу, пададзенага машыністам дызель-цягніка «Ліда—Баранавічы». Ад атрыманых траўмаў дзяўчына памерла на месцы.

• **«Белкамунмаш» выпусціць аднавагонныя дызель-цягнікі.** Кошт аднаго такога складзе каля 8,1 млрд рублёў. Яны дазволяць чыгунцы ашчаджаць грошы. Вытворчасць арганізавана сумесна з польскай холдынгавай кампаніяй Pesa. Першыя цягнікі паставяць на Гомельшчыну і Віцебшчыну.

• **На Пабужжа прыйшла Вялікая вада.** У Брэсце і Брэсцкім раёне падтоплена 198 падворкаў, 81 падвал, 200 садовых участкаў, тры ўчасткі дарог. Паталі сняті, і ўзровень вады ў Бугу надзвычайна ўзняўся. Акрамя таго, Прыпяць у Жыткавіцкім (сем населеных пунктаў) і Петрыкаўскім (шэсць населеных пунктаў) раёнах таксама выйшла з берагоў.

**СГ; АГ; «Intex-press»**

### Самае чытанае на nn.by за 2 — 8 лютага

- Ганна Шадрына: «Я гатовая несці адказнасць»
- Спіс неўязных
- Канферэнцыя ў Варшаве раз'юшыла лукашэнкаўцаў
- Каментатар Васілій Уткін: «Беларуская мова — дыялект рускай»
- Доктар Сірэнка ў Еўропу больш не паедзе. Сірэнка: «Мяне пакаралі за добрую справу»
- Мая Абромчык: «Не хацелася б з'язджаць з Беларусі»
- Як вы ставіцеся да санкцый ЕС? Відэаапытанне на вуліцах
- Адвакатка адмовілася бараніць Ірыну Халіп
- З вяселля — у турму. Гісторыя экстрэмальнага кахання
- Паказальная лупцоўка інвестара: Лукашэнка вынес апошняе папярэджанне «Данону-Юнімілку»

## Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazu дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

А.С. з Лондана.
Вячаславу В., Т.Ш., Ліі Л. з Маладзечанскага раёна.
Мікалаю Т. з Асіповіцкага раёна.
Барысу Ч. з Магілёва.
Мікалаю Р. з Рэчыцкага раёна.
Ю.Ч., Грыгорыю К. з Мазырскага раёна.
І.Б. з Глыбоцкага раёна.
С.С., В.Ц.,Уладзіміру Т., А.С. са Жлобінскага раёна.
Веры К. са Смалявіцкага раёна.
Галіне Ж., А.Б. з Верхнядзвінскага раёна..
Н.Х. са Шчучынскага раёна.
С.Р. з Бярозаўскага раёна.

# Недавер Раманчуку, зняцце Дзмітрыева

Нацыянальны камітэт АГП асудзіў учынак Яраслава Раманчука.

7 лютага прайшло пасяджэнне Нацыянальнага камітэта Аб’яднанай грамадзянскай партыі. На ім для разгляду прапаноўвалася «справа Раманчука». Экс-кандыдат у ноч пасля выбараў асудзіў сваіх калег-прэтэндэнтаў, усклаў на іх і на Ірыну Халіп адказнасць за падзеі на Плошчы. Многімі гэта было расцэнена як баязлівасць і здрада.

Пакуль Анатоль Лябедзька ў турме, ягонае крэсла заняў Станіслаў Багданкевіч. На пасяджэнні Нацкама 74-гадовы прафесар праявіў сябе жорсткім кіраўніком, абсякаў непатрэбныя размовы і спрэчкі. Сам выказваўся ясна і рэзка.

А вось Яраслаў Раманчук з’явіўся на офісе партыі ўпершыню пасля славутай прэс-канферэнцыі 20 снежня. Заняў месца за краем стала.

Раманчуку і прапанавалі першаму даць сваю справаздачу аб кампаніі. Бадзёрым голасам ён пратараторыў, «што нашая кампанія была самай паспяховай сярод іншых кандыдатаў». «Калі мы пачыналі, то разумелі, што прэзідэнтам я не стану», — нечакана прызнаўся Раманчук.

«За што мы бралі адказнасць, мы выканалі. Задачы штурмаваць урадавыя будынкі мы не ставілі, задачу падстаўляць партыю таксама не ставілі», — зазначыў Яраслаў.

Іншы намеснік Лябедзькі Леў Марголін таксама ацаніў вынік кампаніі як станоўчы. «Вынікі працы каманд Някляева і Раманчука супастаўныя», — лічыць ён.

Ад эйфарыі першых двух выступоўцаў якраз пазбавіў Станіслаў Багданкевіч. «У нас адбываецца нейкае самаўсхваленне. Мне гэта не падабаецца, бо выніку няма. Кампанія была сярэдняй ці нават ніжэйшай за сярэднюю. Найвялікшая памылка, што мы не выйшлі на адзінага. Я прапаноўваю стварэнне супольнага Нацыянальнага саюза дэмакратычных сілаў. Давайце паставім яго лідарам нелюбімага Мілінкевіча. Любога, хто б адлюстроўваў нашу супольную пазіцыю», — казаў Багданкевіч.

Ну а потым пачалося абмеркаванне паводзін Яраслава Раманчука. Кандыдата ў прэзідэнты ніхто не абараняў.

«Раманчук сёння паводзіць сябе, нібыта ён быў збоку прыпёку. Маўляў, я клікаў толькі на Кастрычніцкую. А чаго ты клікаў на Кастрычніцкую, каб пакрасавацца там?» — зазначыў Станіслаў Антонавіч.

«Сорам і ганьба тое, што адбылося. Мне сорамна цяпер глядзець у вочы тым людзям, якіх я загітаваў працаваць на Раманчука», — гэта былы прэм’ер Міхаіл Чыгір.

«Паслявыбарчыя падзеі апусцілі наш рэйтынг, калі не да нуля, то амаль да яго. Быў нанесены велізарны ўдар па маральным абліччы партыі», — кажа Аляксандр Дабравольскі.

## Багданкевіч: Найвялікшая памылка, што мы не выйшлі на адзінага.

«Аскепкі нашага іміджу выратоўвае толькі Анатоль Лябедзька, як сядзіць у турме, як бы цынічна гэта ні гучала», — зазначыў Марк Бернштэйн.

Сам Раманчук на гэта адказваў, што спрабаваў ратаваць жыцці людзям. Але ягоныя контраргументы былі недастаткова моцныя — Нацкам абвясціў яму вотум недаверу. Фактычна Раманчук адхілены ад пасады намесніка старшыні.

Другім важным пунктам было супрацоўніцтва АГП з «Гавары праўду». Па словах Раманчука, плённая праца ішла да жніўня месяца, але потым спынілася.

Шмат хто з партыйцаў працаваў на абедзве каманды: і Раманчука, і Някляева. А частка выключна на «Гавары праўду». Апошніх увасабляў міжнародны сакратар АГП Андрэй Дзмітрыеў. Ён быў кіраўніком штаба Някляева.

Леў Марголін зазначыў, што з боку «Гавары праўду» ім ставіліся палкі ў колы. Раманчук сказаў, што людзі фактычна наплявалі на партыю і перайшлі туды, «дзе больш прыемна і камфортна».

А вось рэгіяналы, прынамсі, берасцейцы, спрабавалі пераканаць, што супрацоўніцтва з «Гавары праўду» ўмацавала партыйную структуру.

Прапанова па Дзмітрыеву была адназначнай — зняць з пасады, але не выключаць з партыі. Сам Дзмітрыеў прапаноўваў нейкі час яшчэ пабыць на пасадзе, а за гэты час падрыхтаваць пераемніка. Але не далі. Дзмітрыеў адхілены.

Ягонае месца заняў 21-гадовы Юры Лаўрэнцьеў. Пасада міжнароднага сакратара адна з ключавых у партыі.

Больш жорсткія рашэнні Нацкам АГП вырашыў адкласці да вызвалення Анатоля Лябедзькі.

**Зміцер Панкавец**



Партыя адраклася ад уласнага кандыдата.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Станіслаў Багданкевіч: Раманчук — проста слабы чалавек

Пасля арышту Анатоля Лябедзькі кіраўніцтва АГП узваліў на свае плечы былы кіраўнік Нацбанка і ганаровы старшыня партыі Станіслаў Багданкевіч. «Наша Ніва» задала яму некалькі пытанняў.

**«Наша Ніва»: Станіслаў Антонавіч, што значыць вотум недаверу да Раманчука?**

**Станіслаў Багданкевіч:** Пад ціскам улады Раманчук зрабіў заяву, якая не адпавядае рэчаіснасці. Ён узвёў паклёп на іншых кандыдатаў, якія былі ў турме: Рымашэўскага, Статкевіча, Саннікава ды жонку Саннікава. Мы лічым, што такі чалавек не можа кіраваць партыяй. Сябры Нацкама выказаліся за гэта адзінадушна.

**«НН»: То бок, Раманчук ужо не намеснік старшыні?**

**СБ:** Згодна са статутам партыі, такія рашэнні можа прымаць толькі з’езд. Дэ-факта Раманчук больш не намеснік, але дэ-юрэ гэтая пасада пакуль застаецца за ім. Хаця ад 20 снежня ён не выконваў ніякіх абавязкаў у партыі. Мы прапаноўвалі яму публічна папрасіць прабачэння ў людзей, якіх Яраслаў абразіў. Але ён адмовіўся гэта рабіць. Яшчэ 20 снежня я тэлефанаваў яму. Казаў, што ты, Яраслаў, на волі, скажы, што рабіў заяву пад прымусам, пад ціскам. Але не ўсе ў нас героі.

**«НН»: А сустрэчу з Лукашэнкам партыя таксама асуджае?**

**СБ:** Так. Хоць ніякіх адмысловых заяваў не рабілі. Чалавек прыніжаўся, калі пайшоў на сустрэчу. Гэта вялікі ўдар па іміджы партыі. Хай бы ён спытаўся, дзе нашы партыйцы Ганчар, Захаранка, Карпенка? Раманчук не супраць дэмакратыі, ён проста слабы чалавек. Выратоўваць сябе за кошт іншых людзей не годна.

**«НН»: За што пасады пазбавіўся Андрэй Дзмітрыеў?**

**СБ:** Ён знаходзіцца ў іншай палітычнай структуры. Нельга быць адначасова ў адной і іншай. Нам патрэбен свой кіраўнік міжнароднага аддзела.

**«НН»: А не асцерагаецеся рэваншысцкіх настрояў з боку прыхільнікаў «Гавары праўду»?**

**СБ:** Гэта нерэальна. Учорашняе галасаванне сведчыць пра адзінадушнасць унутры партыі. Гэта ідзе ад таго, што расколы адбываюцца ў БНФ, у сацыял-дэмакратаў. Наша партыя ў аснове сваёй здаровая.

**Гутарыў ЗП**

# Мясніковіч у Еўропу зможа выязджаць

2 лютага апублікаваны спіс лукашэнкаўцаў, якім забаронены ўезд у ЕС.

Ён налічвае 158 прозвішчаў. Сярод іх і Аляксандр Лукашэнка, разам са старэйшымі сынамі.

Затое няма ў спісе новага прэм’ера Міхаіла Мясніковіча.Напэўна, менавіта яму ў выніку выпадзе роля перамоўшчыка з Еўропай. Хаця Сідорскаму Лукашэнка давяраў не заўсёды. Разам з Мясніковічам выязнымі застаюцца віцэ-прэм’ер Сямашка і міністр замежных справаў Мартынаў.

Цікава таксама, што са спіса неўязных выпаў былы міністр унутраных справаў Юры Сівакоў. Магчыма, проста недагляд, бо Сівакоў не мог уязджаць у Еўропу нават тады, калі дазволілі большасці чыноўнікаў.

У спісе шмат прозвішчаў суддзяў, што выносілі прысуды пасля Плошчы-2010. А таксама старшынь выбарчых камісій. Але тут не абышлося без невялікага казусу. У спіс трапіў нябожчык Міхаіл Пішчулёнак з Віцебска. Еўрапейскія дыпламаты тлумачаць гэта складанасцямі ў зборы інфармацыі.

Пазбаўленыя магчымасці выязджаць у Еўропу відныя асобы з КДБ, пракуратуры, а таксама Аналітычна-інфармацыйнага цэнтра. Доктар Віктар Сірэнка таксама больш неўязны. Сірэнка 20 снежня выступіў на БТ з заявай, што Някляеў цалкам здаровы, таму і быў выпісаны са шпіталя.

Вялікае абмеркаванне выклікаў спіс неўязных журналістаў. У прыватнасці, у яго трапіла былая намесніца рэдактара «Советской Белоруссіі» Ганна Шадрына. Яе прыхільнікі сцвярджалі, што Шадрына пісала пра культуру, таму зусім не пры справе.

Іншыя ж выказвалі меркаванне, што ёсць людзі і больш вартыя ў траплянне ў спіс, але гэта не значыць, што там не мусіць быць Шадрыной. Ёй успомнілі і спробу навучыць Святлану Калінкіну пісаць артыкулы, і падлік апазіцыйных грошай, і называнне апазіцыйных кандыдатаў «Бівісамі і Батхедамі» (прыдуркаватыя героі мультсерыяла).

Сама Шадрына ў каментары «НН» так ацаніла сітуацыю. «Мне непрыемна бачыць там сваё прозвішча. Канечне, я разумею, адкуль гэтае рашэнне. Я 13 гадоў адпрацавала ў газеце «Советская Белоруссія». Калі гэта паводле прынцыпу прыналежнасці да дзяржаўнага выдання, то я гатова несці адказнасць. Канечне, па мне ўдарыць, калі я не змагу наведваць замежжа».

У Еўропе кажуць, што гэты спіс яшчэ можа быць папоўнены.

**ЗП**

**Грыбаўскайце: Захад не можа дыктаваць Беларусі**

«Народы свету павінны самі вырашаць, якой улады яны сабе зычаць». З такой заявай выступіла прэзідэнтка Літвы Даля Грыбаўскайце на Міжнароднай канферэнцыі па пытаннях бяспекі ў Мюнхене.

Захад можа «дапамагчы саспець любому народу», але не можа дыктаваць яму, якую сістэму ды якую ўладу ён павінен абіраць. «Гэта тычыцца і Егіпта, і Беларусі», — падсумавала кіраўніца Літвы.

Яшчэ перад выбарамі ў Беларусі Грыбаўскайце выказвалася, што зацікаўленая ў перамозе Лукашэнкі. Маўляў, яна дапаможа захаваць палітычную стабільнасць у цэлым рэгіёне. Перад гэтым яна наведвала з афіцыйным візітам Мінск.

Дарэчы, запрашэнне на канферэнцыю міністру замежных справаў Беларусі Сяргею Мартынаву было адкліканае.

**ЗП**



# Доктар Сірэнка ў Еўропу больш не паедзе

Сірэнка: Мяне пакаралі за добрую справу.

На афіцыйным сайце ЕС з’явіўся спіс 158 лукашэнкаўцаў, якім забаронены ўезд у Еўрасаюз.

Віктар Сірэнка, галоўны ўрач Мінскай бальніцы хуткай дапамогі, які дазволіў спецслужбістам забраць параненага Уладзіміра Някляева і пасля з усмешкай расказваў на ТБ, што стан кандыдата ў прэзідэнты быў лёгкі, трапіў у спіс неўязных пад нумарам 85. Нагадаем, што праваабаронцы звінавацілі Сірэнку ў парушэнні медычнай этыкі.

Нам узяць каментар у доктара Сірэнкі пакуль не ўдалося. У бальніцы казалі, што ён заняты.

У той жа час ён даў каментар лукашэнкаўскаму агенцтву «Інтэрфакс»: «Я спакойна ўспрымаю гэтае рашэнне, але лічу яго поўнай дурасцю. Як я магу нашкодзіць Еўрасаюзу — не магу зразумець. Што тычыцца пацыента Някляева, мы абсалютна спакойныя за той дыягназ, які яму тады паставілі. Дай Бог яму здароўя. Усякая добрая справа заўсёды караецца. За добрую справу — за аказанне медыцынскай дапамогі, за дакладны дыягназ можна, як паказвае жыццё, трапіць у «чорны спіс». Але наша бальніца не будзе складаць ніякіх чорных спісаў. Калі Някляеву спатрэбіцца меддапамога, мы гатовыя аказаць яе ў поўным аб’ёме», — дадаў В.Сірэнка.

**АП; СГ**

# Данон, выйдзі вон!

Кіраўнік дзяржавы наладзіў паказальную лупцоўку малочнай кампаніі «Данон-Юнімілк».

«Калі вы ў першым квартале не выканаеце маіх даручэнняў, то на рынку Беларусі больш працаваць не будзеце», — з такім зваротам да французска-расійскай кампаніі «Данон-Юнімілк» звярнуўся Аляксандр Лукашэнка.

### Неглыбокае малако

Што ж выклікала гнеў Лукашэнкі? Рэч у тым, што «Данон-Юнімілк» абмежаваўся толькі перапрацоўкай і экспартам пітнога малака, то бок вывазам сыравіны. А стварэнне абяцаных сучасных малакаперапрацоўчых прадпрыемстваў зацягнулася.

«Вы забыліся, што вы працуеце не ў Расіі, а ў Беларусі! І пытанні карупцыі, пытанні дзяльбы, ціску, дамоўленасці па-за межамі маіх рашэнняў непрымальныя», — час ад часу Лукашэнка пераходзіў на крык. Заадно пад «раздачу» трапілі старшыня Нацбанка Пракаповіч, два кіраўнікі абласцей — брэсцкі Сумар і магілёўскі Руднік — і кіраўнікі райвыканкамаў. Іх папракалі лабіраваннем праекта.

Напрыклад, галоўны банкір правініўся тым, што калгасы Нацбанка збіраліся пастаўляць сыравіну на прадпрыемствы «Юнімілка», а не на найбліжэйшыя малочныя заводы.

### Перапрацаваўся, перагрэўся

У наездзе была замяшана палітыка: «Усе падумалі, што мы зараз будзем краіну на кавалкі секчы і раздаваць, — грымеў Лукашэнка. — Што нам не трэба — аддамо «Данону», Германіі, Расіі, Польшчы. Дык вось — гэтага не будзе, — падкрэсліў Лукашэнка. — І гэта тычыцца не толькі малочнай галіны».

Нарада праводзілася адразу пасля ўвядзення еўрапейцамі санкцый супраць лукашэнкаўцаў і, такім чынам, успрымалася як своеасаблівы «наш адказ Чэмберлену».

Многія менеджары перажываюць пасля нарады нервовыя дні. Лукашэнка заявіў, што старшыню Пружанскага райвыканкама, «хутчэй за ўсё, трэба замяніць». «Ён нямала працуе, можа, перапрацаваўся, перагрэўся. Туды трэба накіраваць іншага чалавека. Я на гэтым не настойваю, але гэтае пытанне на працягу дзесяці дзён павінна быць у Адміністрацыі прэзідэнта і Камітэце дзяржкантролю разгледжана з пазіцыі кадравай працы ў краіне. Ніякіх скаргаў і шкадаванняў. Са Шкловам такса ма разбярыцеся. А з губернатарамі я разбяруся сам», — сказаў беларускі лідар.

На нарадзе, што паказальна, даклад рабіў новы кіраўнік Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандр Якабсон.

### Расіяне не дабраліся да Слуцка

Расійскі «Юнімілк» з'явіўся на беларускім рынку ў 2009 годзе. У 2010 годзе кампанія злілася з падраздзяленнем французскай кампаніі «Данон» у СНД. Такім чынам утварылася буйная аб'яднаная структура. Цікава, што на падпісанні дакументаў аб хаўрусе прысутнічалі расійскі віцэ-прэм'ер Зубкоў і міністр эканомікі Францыі Лагард.

У Беларусь кампанія прыйшла на хвалі лібералізацыі.

Яна абяцала павялічыць глыбіню перапрацоўкі малака. У нашай краіне былі створаныя два сумесныя прадпрыемствы: СТАА «Юнімілк Пружаны» і СТАА «Юнімілк Шклоў». У іх развіццё кампанія інвеставала каля $35 мільёнаў, большасць з якіх было выдаткавана на закуп абсталявання і будаўніцтва. Расіяне хацелі пашыраць свой уплыў на беларускі рынак, для чаго купілі заводзік у Высокім і рыхтаваліся купіць прадпрыемства ў Слуцку. Відаць, планы так і застануцца нерэалізаванымі.

### Аднабаковы перагляд

Лукашэнка выказаў сваю незадаволенасць шклоўскім заводам яшчэ ў чэрвені 2010 года. Тады кіраўнік дзяржавы ўзяў з прадпрыемства абяцанні няхільна выканаць свае патрабаванні накont перапрацоўкі малака. Цярпення Лукашэнкі хапіла трохі больш, чым на паўгода.

Рэакцыя «Данон-Юнімілка» была асцярожнай і падкрэслена ветлівай. Кампанія запэўніла, што «паважае меркаванне беларускіх уладаў і будзе працягваць супрацоўніцтва з імі». Тым часам Лукашэнка загадаў перагледзець інвестыцыйнае пагадненне ў аднабаковым парадку.

У панядзелак намесніца міністра сельскай гаспадаркі Надзея Каткавец заявіла, што даручэнні Лукашэнкі пераводзяцца ў дакументы і інвестыцыйнае пагадненне будзе перагледжана.

**Яўген Васількоў**

**Як Лукашэнка палохае інвестараў**

Сітуацыя з «Юнімілкам» — далёка не першае ўмяшальніцтва ўладаў у справы прадпрыемстваў. Самая апошні гучны выпадак датычыўся «Пінскдрэва». У пачатку студзеня кампанія была падпарадкаваная канцэрна «Беллеспапрам». Неўзабаве «зверху» быў прызначаны і новы дырэктар. Скандальнасць сітуацыі ў тым, што дзяржава не ўваходзіла у лік акцыянераў холдынгу. Былы міністр працы Георгій Бадзей назваў гэты выпадак вяртаннем права «залатой акцыі» — механізма, які дазваляў уладзе ўмешвацца ў дзейнасць прадпрыемстваў з рознай формай уласнасці.

# Кіраўніком найбагацейшай кампаніі «Белнафтахім» стаў менеджар з Расіі

Новы прыём у кадравай палітыцы Лукашэнкі.

4 лютага Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне былога дырэктара «Гродна Азота» Ігара Фёдаравіча Жыліна старшынёй канцэрна «Белнафтахім».

«Белнафтахім» — гэта самы дарагі бізнэс, які мае беларуская дзяржава. У яго ўваходзяць «Беларуськалій», нафтаперапрацоўчыя заводы, трубаправоды, «Азот», Гомельскі хімзавод, нафтаздабыўчая «Беларуснафта», заводы хімвалакна, «Белшына», «Лакафарба», «Шкловалакно» — агулам 60 прадпрыемстваў са 130 000 супрацоўнікаў. Усё тое, што хацелі б у Беларусі прыватызаваць расійскія кампаніі найперш.

І вось менеджарам гэтага гіганта прызначаны грамадзянін Расіі Ігар Жылін. Між тым, Жылін пераехаў у Беларусь усяго год таму, у 2009 годзе. Тады ён узначаліў «Гродна Азот» — горадаўтваральнае прадпрыемства.

Было вельмі незвычайна тое, што на вялікае беларускае прадпрыемства запрасілі менеджара з-за мяжы. Хоць гэтае прызначэнне прыпала на перыяд «эканамічнай лібералізацыі», адразу пайшлі размовы аб перадпродажнай падрыхтоўцы завода. Тым больш што «Газпром» даўно падбіваў бакі ў Гродна.

Сяргей Антусевіч, кіраўнік незалежнага прафсаюза супрацоўнікаў «Гродна Азот», так ахарактарызаваў у размове з «НН» новага кіраўніка прадпрыемства: «Я сустракаўся з ім. Выглядае, як сапраўдны рыначнік. Адрозненні ад ранейшых кіраўнікоў каласальныя. Выражаецца гэтая розніца хаця б у тым, што раней ніхто з кіраўніцтва прадпрыемства не кантактаваў так шмат з прэсай».

Прызначэнне Жыліна на «Азот» было своеасаблівым эксперыментам беларускага кіраўніцтва. Фінансавы стан «Азота» быў кепскі. Жылін пайшоў на радыкальныя захады для яго паляпшэння.

Цікава, што брат-блізнюк Алега Жыліна — віцэ-прэзідэнт Расійскага газавага таварыства, а раней працаваў начальнікам упраўлення перспектыўнага развіцця «Газпрома».

Шляхам такіх прызначэнняў лукашэнкаўцы спрабуюць трымаць сувязі з вялікім расійскім капіталам. Паказальна, што выбар зроблены на карысць пенсіянера і чалавека з савецкім менеджарскім вопытам.

**Сяргей Гезгала**



Лукашэнка выбраў пенсіянера з савецкім менеджарскім вопытам.

**Ігар Жылін**

нарадзіўся 18 студзеня 1941 у горадзе Арджанікідзэ (сёння — Уладзікаўказ, Паўночная Асецыя). У 1965 скончыў Томскі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці «Машыны і апараты хімічных вытворчасцяў», а ў 1978 — Харкаўскі інжынерна-эканамічны інстытут.

Ад 1965 працаваў на розных пасадах на шэрагу прадпрыемстваў азотнай прамысловасці ва Украіне, Узбекістане, Расіі і Грузіі. З 2003 працаваў тэхнічным кансультантам маскоўскай кампаніі «СреднеАзГаз», з 2006 — першым намеснікам генеральнага дырэктара АТ «Энэрджы Інвест» у грузінскім Руставі.

У 1990—1993 Ігар Жылін быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Расіі, намеснікам старшыні Камітэта ВС РФ па пытаннях эканамічнай рэформы і ўласнасці, акурат у час чубайсаўскай прыватызацыі.

«Энэрджы Інвест», дзе Жылін працаваў перад «Азотам», належала грузінскаму бізнэсоўцу Гена Малазонію. У 2010 грузінская пракуратура арыштавала яго па абвінавачванні ў хаванні падаткаў і незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

# Мясніковіч кліча IKEA ў Беларусь

Прыклад «Данона» прымусіць інвестараў задумацца.

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч затрабаваў ад урада на працягу месяца прыняць рашэнні па ўсіх інвестыцыйных праектах. «За выкананне адказвае кожны міністр, кожны губернатар», — сказаў Мясніковіч.

У якасці прыкладу ён прывёў шведскую IKEA і аўстрыйскую Egger, якія на працягу двух гадоў не могуць пачаць працу ў Беларусі. «То лесу не хапае, то кошт не той. Замежныя інвестары глядзяць, наколькі паспяховы бізнес у іх авангардных калег, і робяць выснову, ці варта самім мець бізнес у Беларусі», — разважае прэм'ер-міністр.

**ЯВ**

## Сцісла

• **Адмоўнае сальда за год — $9,64 мільярда.** Паводле падлікаў Белстата, экспарт беларускіх тавараў склаў $25,2 млрд, а імпарт — $34,9 млрд. Такім чынам, адмоўнае сальда замежнага гандлю дасягнула рэкордных $9,64 млрд за год. Летась было мінус $7,26 млрд.

• **У Мінску будуюць паўкіламетровы мост.** На скрыжаванні праспектаў Дзяржынскага і Жукава ў сталіцы пачалося будаўніцтва моста 460 метраў удоўжкі. Гэта будзе адзіны транспартны вузел, размешчаны на чатырох узроўнях. Першы ўзровень — мост, па якім пройдзе рух па праспекце Дзяржынскага, другі — разваротнае кола, трэці — траса праспекта Жукава, якая застанецца ў тых жа габарытах і на тым жа ўзроўні, што і цяпер. Чацвёрты — падзямельны — лінія метрапалітэна.

• **Камерцыйныя шапікі не вернуцца на сталічныя прыпынкі.** Пра гэта заявіў намеснік старшыні Мінгарвыканкама Уладзімір Калтовіч. «Каля 80% парушэнняў правілаў гандлю цыгарэтамі і півам прыпадала менавіта на шапікі», — растлумачыў ён.

• **Інвестарам дазволяць распрацоўваць радовішчы карысных выкапняў.** У бліжэйшы час урад апублікуе інфармацыю пра ўмовы правядзення адкрытых конкурсаў. Праекты датычацца гранітных і жалезарудных радовішчаў, бурых вуглёў і гаручых сланцаў.

• **Дапамога на дзяцей павялічылася на 13 тысяч рублёў.** Гэтых грошай можа хапіць на дзве пустышкі ці дзве ўпакоўкі малочнай сумесі. Цяпер бацькі будуць атрымліваць 296 780 рублёў штомесяц. На дзіцёнка, старэйшага за тры гады, дапамога складае 89 тысяч рублёў.

**ЯВ**

# Затрыманы родны брат бізнэсоўца, блізкага да Лукашэнкі

**Віталь Тапузідзіс, родны брат старшыні праўлення ТАА «Табак-Інвест» і суўладальніка ГЦ «Карона», падазраецца ў падбухторванні да давання буйнога хабару чыноўнікам.**

Павел Тапузідзіс уваходзіць у дзясятку самых уплывовых (у сэнсе — набліжаных да ўлады) бізнэсоўцаў Беларусі. Менавіта таму аперацыю па затрыманні яго роднага брата ў МУС ужо ахрысцілі адной з самых складаных і буйных аперацый, праведзеных па лініі супрацьдзеяння карупцыі за апошнія гады.

Прозвішча Тапузідзіс добра вядомае не толькі буйному бізнэсу Беларусі, але і ўсяму кіраўніцтву краіны.

Павел Тапузідзіс мае дастаткова блізкія адносіны з Аляксандрам Лукашэнкам і з'яўляецца яго актыўным прыхільнікам — нават з уласнай ініцыятывы ўдзельнічае ў выбарчых кампаніях.

Напэўна, таму ва Упраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС катэгарычна адмовіліся даваць каментары па гэтай справе. Сітуацыю яшчэ ўскладняе тая акалічнасць, што цяпер МУС працуе па тых самых чыноўніках, якім павінен быў перадаць грошы Віталь Тапузідзіс. Калі, вядома, павінен быў.

Справа ў тым, што Віталь Тапузідзіс (ён яшчэ часам называе сябе Уладзімірам) вядомы ў праваахоўных органах не з найлепшага боку.

Не маючы дачынення да бізнэсу роднага брата і да яго сувязяў, ён часам прыкрываўся яго імем і знаёмствамі, ладзячы розныя сумнеўныя мерапрыемствы.

Напрыклад, у 2006 годзе ў Беларусі праваахоўнымі органамі была распачатая крымінальная справа, якая ледзь не каштавала ТАА «Табак-Інвест» рэпутацыі. Былі падазрэнні, што кампанія праз падстаўную структуру ажыццяўляе кантрабанду цыгарэт у Беларусь. Калі пачалі разбірацца, высветлілася, што гэта задума Віталя Тапузідзіса, які, прыкрываючыся імем брата, спрабаваў арганізаваць свой не зусім чысты бізнэс. Справу ціха замялі і забыліся пра яе. Улічваючы гэтую гісторыю, складана меркаваць, што Павел Тапузідзіс можа мець нейкае дачыненне да новага карупцыйнага «бізнэсу» свайго брата. Хутчэй за ўсё, Віталь зноў выкарыстаў імя брата, каб паказаць патэнцыйнаму кліенту, што ён можа «вырашаць пэўныя пытанні».

Як высветліў «Ежедневник», антыкарупцыйная аперацыя была праведзеная сіламі спецпадраздзялення па барацьбе з тэрарызмам «Алмаз» МУС. 31 студзеня а 16-й быў затрыманы заснавальнік ТАА «Ринта плюс». Затрыманне адбылося з доказамі злачынства, адразу пасля атрымання ім 5 тысяч даляраў ад генеральнага менеджара ТАА «Дом Аугустин Лопес», грамадзяніна Конга, які мае від на жыхарства ў Беларусі. ТАА «Дом Аугустин Лопес» з'яўляецца кіроўнай кампаніяй вядомага мінскага рэстарана CASA AGUSTIN LOPEZ, і грошы перадаваліся для наступнай перадачы службовым асобам дзяржаўных органаў за спрыяльнае вырашэнне пытання па заключэнні дамовы арэнды на выгадных умовах у інтарэсах рэстарана. Рэстаран CASA AGUSTIN LOPEZ, паміж іншым, арандуе памяшканне ў Кіраўніцтва справамі прэзідэнта.

Ужо на першым допыце затрыманы паказаў, што насамрэч усе пытанні са службовымі асобамі УСП будзе вырашаць не ён, а Віталь Тапузідзіс, які дзякуючы свайму брату мае выхады на патрэбных людзей.



**Павел Тапузідзіс і Аляксандр Лукашэнка на Нарачы, дзе «Табак-Інвест» збіраецца будаваць цэнтр водных забаваў.**

Праз дзве гадзіны супрацоўнікі Упраўлення пра барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй і падраздзялення «Алмаз» МУС надзелі кайданкі на брата вядомага бізнэсоўцна. Ён падазраецца ў тым, што падбухторваў кіраўніка ТАА «Дом Аугустин Лопес» даць хабар у 10 тысяч даляраў службовым асобам за спрыяльнае вырашэнне пытання па заключэнні дамовы арэнды на выгадных умовах у інтарэсах рэстарана. Наколькі рэальна Віталь Тапузідзіс мог вырашыць гэтае пытанне, пакуль сказаць складана. Але людзі, якія добра яго ведаюць, кажуць, што хутчэй за ўсё ён зноў скарыстаўся імем і сувязямі брата.

**Ej.by**

# Суд замест дома

**Незвычайная судовая спрэчка здарылася ў Брэсце. Будаўнік адмаўляецца падпісваць акт здачы-прыёмкі работ, а кліент дабіваецца гэтага праз суд, бо яму гэта трэба для атрымання крэдыту.**

«Я не магу дабіцца справядлівасці», — жыхар Брэста Аляксандр Шчэрба адстойваў свой інтарэс у многіх інстанцыях. Зняверыўшыся, даслаў у рэдакцыю «НН» ліст, у якім апісаў свой выпадак.

Аляксандр — індывідуальны прадпрымальнік, будаўнік. У 2009 г. ён падпісаў дамову будаўнічага падраду з Ірынай К. (імя зменене Рэдакцыяй). З 20 жніўня па 30 лістапада брыгада Шчэрбы мусіла выканаць шэраг будаўнічых работ у доме К. Кантракт прадугледжваў безнаяўны разлік. Гэта паводле дамовы, а па словах Шчэрбы, аплата мела нюансы.

Гаспадыня, піша ён, выпісвала будаўнікам чэкі на большыя, чым яны зарабілі, сумы, кажучы, што ў яе заканчваецца чэкавая кніжка. Рэшту з тых сумаў будаўнікі вярталі гаспадарам. Тыя абяцалі заплаціць ізноў, як толькі яны зробяць працы на іх. Але слова нібыта не стрымалі. На думку будаўніка, гаспадыня выкарыстала іх, каб канвертаваць частку безнаяўнага крэдыту ў рэальныя грошы. І гэта яшчэ не ўсё.

У адным з актаў здачы-прыёмкі выкананых працаў будаўнік убачыў падроблены кімсьці свой подпіс. Там жа былі пазначаныя працы, якія брыгада Шчэрбы не выконвала, а згодна з дамовай, цягам двух гадоў падрадчык нясе гарантыйную адказнасць за сваю працу. Ён напісаў заяву ў банк, дзе К. атрымала льготны крэдыт на рамонт. Звярнуў увагу на падробку подпісу ды іншыя падазроныя моманты ў актах здачы-прыёмкі. Але заяву вярнулі. Прадпрымальнік пайшоў у Дэпартамент фінансавых расследаванняў.

Справу перадалі ў АБЭЗ Маскоўскага раёна Брэста. Там следчы тройчы падпісваў пастанову аб адмове ў распачынанні крымінальнай справы нібыта праз немагчымасць пацвердзіць факт фальшавання подпісу Шчэрбы. Трэцюю адмову падпісаў у момант, калі подпіс праходзіў экспертызу ў Дзяржаўным экспертна-крыміналістычным цэнтры. Мінскія эксперты прызналі факт фальшавання подпісу, але крымінальную справу не пачалі, заявіўшы, што ў дадзеным выпадку факт падробкі подпісу малазначны і не нясе вялікай шкоды. Банк прызнаў, што крэдытныя сродкі выдаткоўваліся па прызначэнні, ніякай маёмаснай шкоды яму не нанесена.

«Аказваецца, у Брэсце закон — гэта сувязі», — абураўся Шчэрба. Пры гэтым ён прызнае, што ўмовы аплаты з гаспадыняй яны абмяркоўвалі вусна і ніякіх дадатковых дакументаў не афармлялі.

Прадпрымальнік дайшоў да Генпракуратуры і Адміністрацыі прэзідэнта. Адзіны вынік — следчага АБЭЗ папярэдзілі пра неабходнасць больш старанна і ўсебакова разглядаць заявы і паведамленні пра злачынствы.

Шчэрба не падпісаў акт выкананых работ, бо не хоча браць на сябе гарантыйную адказнасць за працы, якія не рабіў.

Ірына К. лічыць, што сваімі дзеяннямі Шчэрба парушыў яе правы спажыўца. Без яго подпісу жанчына не можа працягнуць ільготны крэдыт. Яна звярнулася ў Таварыства абароны спажыўцоў і суд Маскоўскага раёна Брэста. Суд абавязаў Шчэрбу падпісаць акт. «У нас быў суд, мы яго выйгралі. Усе факты, выкладзеныя ў скаргах Шчэрбы, правяраліся ў кампетэнтных органах. І нідзе не знайшлі пацверджання», — расказала «НН» Ірына. Яна кажа, што Шчэрба працаваў у іх усяго некалькі дзён. «Прыводзіў на працу нейкіх людзей, сваіх знаёмых. Я з ім разлічвалася, а ён — са сваімі людзьмі». Па словах жанчыны, іх з мужам не задаволіла праца Шчэрбы, таму яго адхілілі ад будоўлі, ад чаго ён і пакрыўдзіўся. «Гэта такі чалавек, яму толькі дай, каб паскардзіцца на каго. Яму больш няма чым заняцца. Калі скончыцца суд, я пайду ў пракуратуру».

Пакуль рыхтаваўся артыкул, Брэсцкі абласны суд разгледзеў касацыйную скаргу А.Шчэрбы і вярнуў справу на дапрацоўку ў Маскоўскі суд. Той мусіць высветліць, хто выконваў будаўнічыя працы, за якія не хоча распісвацца Шчэрба. Акрамя таго, да справы ізноў падключылі ДФР.

Вось так звычайная будоўля ператварылася ў кашмар для абодвух бакоў праз адыход ад афіцыйнай схемы разлікаў.

**Сямён Печанко**

## Здарэнні сцісла

• **Гендырэктара будуць судзіць за выцягванне крэдыту на 400 млн.** Гендырэктар мазырскага прадпрыемства ў чэрвені 2009 года для атрымання крэдыту падаў у аддзяленне «Белаграпрамбанка» ілжывыя звесткі: бухгалтарскія балансы, справаздачы аб прыбытках і стратах, дадатак да балансу — у выніку чаго атрымаў крэдыт у памеры 400 млн рублёў. Справа перададзеная ў суд.

• **Паблытаў міліцыю з таксі.** У Брэсце п'яны мужчына сеў у машыну ДАІ і сказаў «Паехалі». Калі яго прывезлі да міліцыі, западозрыў нядобрае і паспрабаваў збегчы. Калі яму не ўдалося, дастаў нож і стаў пагражаць супрацоўніку ДПС. Але той яго скруціў і завёў у РАУС.

• **Заб'ю, але грошай не аддам.** Мінскі бізнэсмэн назаймаў у прыяцеляў 170 тысяч долараў, а вярнуць не змог. Крэдыторы звярнуліся ў міліцыю. Віна прадпрымальніка даказана, яму самому пагражае да 10 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Падчас следства стала вядома, што падследны пагражаў аднаму з тых, хто даваў грошы, забойствам. Ашуканец хацеў запалохаць яго з мэтай спісання доўгу.

• **У Мінску затрымалі дваіх расійскіх гандляроў рабамі.** Два жыхары Масквы спрабавалі вывезці мінчанак для сэксуальнай эксплуатацыі ў бардэлях расійскай сталіцы. Іх затрымала міліцыя. Гэта маладыя хлопцы 22 і 23 гадоў. Адзін працуе менеджарам у кампаніі, а другі вучыцца ў маскоўскай акадэміі. Яны паспелі завербаваць трох дзяўчат.

• **Кампанія банкетавала на кватэры ў сябра суботнім вечарам.** Адзін з гасцей, 17-гадовы навучэнец ПТВ, вырашыў пакатацца на «Жыгулях» гаспадара і, калі той заснуў, выцягнуў у яго з кішэні ключы. Толькі, ад'ехаўшы, урэзаўся ў плот. Спалохаўшыся, вярнуў аўто і ключы на ранейшае месца. Убачыўшы пашкоджаны аўтамабіль, гаспадар звярнуўся ў міліцыю, хоць і падумаць не мог, што шкоду яму зрабіў госць. Міліцыя выявіла зламысніка: ён уклаў ключ не ў тую кішэню. Цяпер яму пагражае да 5 гадоў пазбаўлення волі.

• **У вёсцы Брагі канфіскавалі тону брагі.** У Іўеўскім раёне міліцыянты ліквідавалі два найбуйнейшыя за апошнія гады «заводы» па вырабе самагону. Абодва размяшчаліся ў гаспадарчых пабудовах вёсак Лялюкі і Брагі. У першым выпадку было знойдзена 400 літраў самагонкі. Паводле слоў гаспадара, гэтакую буйную партыю ён меў намер выкарыстаць выключна для асабістага спажывання. У Брагах міліцыя выявіла апарат і каля тысячы літраў брагі. Самагоншчыкам пагражае штраф.

**СМ**




**КАРЦІНА МЯНЯЕЦЦА.** Гэтае незвычайнае палатно стварыў Яўген Шадко. Ён беларус, студэнт аддзялення жывапісу ўніверсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні (Польшча). А незвычайная карціна таму, што на ёй можна, нават неабходна, пакінуць свой след, падзяліцца думкамі, пачуццямі. Накрэмзай пару сказаў, прыляпі фотаздымак альбо намалюй выяву… Карціна была напісана да выставы пра падзеі 19 снежня. За некалькі тыдняў карціна трохі змяніла выгляд.

**Сяргей Гудзілін**

# Творы мастацтва, якія нас здзівілі

Творы мастацтва жывуць сваім жыццём. Часам лёсы гэтых твораў становяцца не менш цікавымі, чым лёсы людскія.

### Рэкорд Манэ

Ці мог бы сын крамніка з Нармандыі, маладзенькі жаўнер Клод Манэ, які захварэў на тыф у спякотным Алжыры, ведаць, што стане сусветна славутым мастаком? Але праз паўтары сотні гадоў яго папулярнасць стала выключнай. І дасёння ён сярод самых шанаваных мастакоў у свеце.

На мінулым тыдні скончылася ўнікальная выстава яго твораў у Парыжы. Гэткай прадстаўнічай экспазіцыі ў Францыі не было цягам ужо трох дзесяцігоддзяў. Арганізатары экспазіцыі сабралі 170 палотнаў, створаных імпрэсіяністам за 60 гадоў творчасці. Тры дзясяткі карцін, пазычаных з прыватных калекцый, у апошнія дзесяцігоддзі амаль не выстаўляліся.

За тры месяцы на выставе твораў Клода Манэ ў Парыжы пабывалі 912 тыс. чалавек. У апошнія дні выставы залы Гран-Пале працавалі ў кругласутачным рэжыме. Сотні людзей, як турысты, так і парыжане, па шмат гадзін стаялі ў чарзе, імкнучыся патрапіць на ўнікальную экспазіцыю. У абсалютным рэйтынгу рэкордаў Францыі паказ карцін Манэ знаходзіцца на другім месцы, саступаючы па папулярнасці адно скарбам Тутанхамона, паказ якіх сабраў у 1967 годзе ажно 1,2 млн чалавек. Праўда, тады выстава працавала не тры, а сем месяцаў.

### Знаходка Дзюрэра

Яшчэ адной гучнай навіною ў Еўропе стала знаходка карціны Альбрэхта Дзюрэра «Самагубства Клеапатры» .

Яе скралі яшчэ ў 1972 годзе! Карціна геніяльнага нямецкага мастака эпохі Адраджэння выявілася, калі калекцыянер, які хацеў набыць шэдэўр, звярнуўся да італьянскай паліцыі з просьбай праверыць яго паходжанне. Далейшае дазнанне паказала, што «Самагубства Клеапатры» захоўвалася ў кватэры аднаго дызайнера ў Рыме. Калекцыя гэтага неназванага дызайнера налічвала каля 180 прац, з якіх 16 былі скрадзеныя з цэркваў і прыватных калекцый. Агульны кошт выкрадзеных карцін складае блізу мільёна еўра.

### Кошт Тыцыяна

Але і гэта не самая вялікая лічба за мінулы тыдзень. Уразіла цана, за якую была прададзеная карціна Тыцыяна на аўкцыёне Sotheby's у Нью-Ёрку. Палатно «Святая бяседа. Мадонна з дзіцем, Святым Лукою і Кацярынаю Александрыйскай» прададзеная за $16 900 000. Гэта рэкордная цана для карціны эпохі Рэнесансу.

Карціна італьянскага майстра стала, такім чынам, адным з самых дарагіх палотнаў, прысвечаных рэлігійнай тэматыцы, што былі прададзеныя на вольным рынку.

«Святая бяседа», напісаная ў 1560 годзе, на працягу чатырох з паловай стагоддзяў захоўвалася толькі ў прыватных калекцыях, толькі шэсць разоў змяніўшы ўладальніка. Як паведаміла прадстаўнік аўкцыённага дома, пакупніком топ-лота цяперашніх таргоў стаў ананімны калекцыянер з Еўропы. Агульная сума, атрыманая падчас таргоў работ старых майстроў, якія адбыліся на Sotheby's у мінулы чацвер, склала $78,6 млн.

Значыць, ёсць яшчэ і ў нашай частцы свету пакупнікі, якіх не бянтэжаць такія лічбы. І не перастаюць здзіўляць сваім лёсам творы.

**Сяргей Харэўскі**

## ДЗЕ ВАРТА БЫЦЬ

### Першыя «Ў»годкі кнігарні «ЛогвінаЎ»

**У суботу 12 лютага** прадаўцоў, дырэктараў і касавы апарат кнігарні цэлы дзень будуць віншаваць сябрылітаратары.

У кнігарні адбудзецца раздача сланоў (напалову задарма). У гэты дзень уладальнік крамы Ігар Логвінаў не будзе кантраляваць сябе ад радасці і прадасць вам любую кнігу ўласнага выдавецтва за 50% кошту, а кнігі ад «Будзьмы» са зніжкай у 70%.

А перад тым адбудзецца дзіцячы літаратурны ранішнік з удзелам Віктара Жыбуля, Веры Бурлак і Андрэя Хадановіча.

Ў-годная праграма, **12 лютага:**

**14:30—16:00** — Дзіцячы літаратурны ранішнік.

**16:00—17:30** — Выступ літаратурных знакамітасцяў (Арлоў, Хадановіч, Глобус ды іншыя).

**17:30—18:30** — Бардканцэрт.

**18:30—20:00** — Працяг выступу селебрэцяў, а таксама прэзентацыя новых выданняў выдавецтва «Логвінаў».

**Кнігарня «Ў»: пр. Незалежнасці, 37а, гэта ў двары за домам «Подзвіг народа» на плошчы Перамогі.**

### Арлоў, Бахарэвіч, Бабіна — на Мінскім міжнародным кніжным кірмашы

Незалежныя выдаўцы на XVIII Мінскім міжнародным кніжным выставе-кірмашы аб'ядналіся на адным стэндзе. Там будуць кнігі выдавецтваў «Логвінаў», «Галіяфы», «Лімарыус», Змітра Коласа і выдавецкіх серый Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», часопісаў ARCHE, «Дзеяслоў», pARTisan.

Выстава-кірмаш пройдзе **9—13 студзеня ў выставачным цэнтры БелЭКСПА (вул. Янкі Купалы, 27).**

**9 лютага (серада)**

**14:00 — 15:00** Уладзімір Арлоў прэзентуе зборнік гістарычных апавяданняў «Ля дзікага поля».

**15:00 — 16:00** Альгерд Бахарэвіч падпісвае кнігі «Халоднае сэрца», «Праклятыя госці сталіцы».

**16:00 — 17:00** Адам Глобус прадстаўляе новую кнігу «Крутагорскія казкі» і зборнік паэзіі «Новае неба».

**17:00 — 18:00** Зміцер Вішнёў ставіць аўтографы на кнігі «Замак з крапівы» , «Фараон у заапарку».

**10 лютага (чацвер)**

**14:00 — 16:00** рэдактар часопіса pARTisan Артур Клінаў прэзэнтуе ваенны раман «Шалом».

**16:00 — 17:00** Філосаф Валянцін Акудовіч тлумачыць галоўнае пра кнігі «Код адсутнасці», «Архіпелаг Беларусь» .

**11 лютага (пятніца)**

**14:00 — 16:00** Прэзентацыя серыі гістарычных кніг часопіса ARCHE.

**16:00 — 17:00** Арцём Кавалеўскі чытае паэзію са зборнікаў «Аддаленасць і адданасць», «АдмыСЛОВЫя гульні».

**17:00 — 18:00** — Андрэй Хадановіч расказвае свае паэтычныя «Несіметрычныя сны».

**12 лютага (субота)**

**13:00 — 14:00** Анатоль Вярцінскі прадстаўляе зборнік паэзіі «Асобныя радкі».

**14:00 — 15:00** Алесь Разанаў чытае «З Вяліміра Хлебнікава», «З апокрыфа ў канон», «Воплескі даланёю адною».

**15:00 — 16:00** Наталка Бабіна падпісвае раман «Рыбін горад».

**13 лютага (нядзеля)**

**11:00 — 12:00** Зміцер Колас прадстаўляе кнігу Тувэ Янсан «Камета над далінай мумітроляў».

**12:00 — 13:00** Вера Жыбуль чытае ўрыўкі са свайго перакладу кнігі Льюіса Кэрала «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса».

**13:00 — 14:00** — беларускія эльфы і хобіты прадстаўляюць казку Дж. Р. Р. Толкіна «Каваль з Вялікага Вутану».

# Дыплом на тэму «Апошні дыктатар Еўропы»

**абараніла студэнтка варшаўскай Акадэміі мастацтваў Таццяна Зарэмбюк.**

Дыплом з гучнай назвай «Апошні дыктатар Еўропы» абараніла стыпендыятка праграмы Каліноўскага з Мастоў Таццяна Зарэмбюк. У Беларусі яна вучылася ў Інстытуце сучасных ведаў, пасля падзеяў 2006 г. была адлічаная. З'ехала на вучобу ў варшаўскую Акадэмію мастацтваў.

Дыплом уяўляе сабой праект мультымедыйнай выставы. Фотахроніка будзе падмацаваная інфармацыйнымі стэндамі і кароткімі відэасюжэтамі.

Што ж пабачаць наведнікі выставы, калі праект беларускай студэнткі будзе рэалізаваны? Выстава аб'яднае некалькі тэмаў. Гэта ўласна персанаж, пра якога вядзецца ў назве праекта. Яго палітычная біяграфія, а таксама кароткія гісторыі пра яго сяброўдыктатараў. Сваё месца на выставе зойме аповед пра ахвяраў «апошняга дыктатара Еўропы» — зніклых палітыкаў і бізнесоўцаў, палітзняволеных. Асобны стэнд у праекце будзе адведзены падзеям 19 снежня 2010 года.

Што да гучнай назвы свайго праекта, то Таццяна не баіцца абвінавачванняў у кан'юнктурнасці: «Я даўно цікаўлюся гэтай тэмай, колькі гадоў мару зладзіць выставу. Ідэя прысвяціць дыпломную працу гэтай тэме нарадзілася ў мяне тады, калі распачаўся актыўны дыялог Захаду з дыктатарам. Я заўжды лічыла, што з дыктатарам нельга дамовіцца. І не магла зразумець, як можна даравадь і замоўчваць тое, што адбылося пры канцы 1990-х са зніклымі палітыкамі. Як можна забыць пра лёсы палітзняволеных і іх сем'яў. Пра цяжкі лёс сына Завадскага».

Працу над дыпломам Таццяна пачала ў маі мінулага года, абараніла яго 21 студзеня.

«Спадзяюся, што здолею арганізаваць выставу ўжо сёлета», — кажа Таццяна. Згодна праекта, выстава мае быць мабільнай. Студэнтка з Мастоў марыць аб'ехаць са сваёй працай Еўропу. Тым больш, што пэўная зацікаўленасць, па яе словах, на Захадзе ўжо ёсць.

**Сямён Печанко**




# Дух из туалетища: Рубінаў яшчэ і паэт

**Старшыня савета рэспублікі нацыянальнага сходу Анатоль Рубінаў разрадзіўся адразу двума зборнікамі паэзіі.**

У рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і мастацтва» выйшлі два яго паэтычныя зборнікі: «Вот она, наша жізнь» і «Сердце і память». Як пазначана ў анатацыях, у вершах Рубінава «выражана грамадзянская пазіцыя аўтара», а таксама гэта «лірычная споведзь аўтара аб навакольным свеце».

Зборнікі з'явіліся пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі. А гэта азначае, што паэзія Рубінава аднесена да так званай сацыяльна-значнай літаратуры, выхад якой фінансуецца з бюджэту краіны.

Ідэолаг Рубінаў ініцыяваў школьную рэформу, якая выклікала хвалю абурэння ў педагогаў. У час кіраўніцтва ідэалагічнай вертыкаллю ён стаў вядомы таксама як змагар з рэлігіяй, а цяпер ён праслыве як паэт.

Вось толькі наўрад ці ён стане членам Саюза пісьменнікаў на чале з Чаргінцом. У Рубінава з генералам напружаныя адносіны, пра што заяўляў Чаргінец.

«Рэдагаванню кніга не падлягае, толькі цытаванню», — напісала ў сябе ў блогу паэтка Аксана Спрынчан.

**КМ**



### З вершаў ідэалагічнага генерала

Ох, народ ты наш, народ,
Ох, народище!
Из полтысячи пород —
Одна породища!

Наш один — за ихних двух —
Только дай борща…
И раз в двадцать крепче дух…
Из туалетища.

(«Ох, народ ты наш, народ!»)

Берез и сосен вечен шум,
И пусть нигде пока ни зги —
Еще, ребята, будет штурм,
Еще послужат вам мозги…

(«Любовь моя, Новосибирск…»)

И за пятьдесят каких-то лет
Мы в цивилизацию прорвались,
Космос, и балет, и Интернет —
Все построили, освоили, создали.

(«Мирная страна под мирным небом»)

Жизнь у ментов такая непростая,
Опять зовут, опять на выезд им пора,
И днем, и ночью мирных граждан охраняют,
Рискую жизнями, лихие опера.

Ох, и менты, менты, менты!
Они с преступником «на ты»,
Его поймать для них пустяк лишь сущий,

Хоть не герои, но храбры,
Хоть простодушны, но хитры,
От сериала их и крючит нас, и плющит.

Хоть туповаты, но хитры,
Хоть неуклюжи, но храбры,
От них по телеку и плющит нас, и крючит.

(«Менты»)

ГУМАР

Зух Вялейскі

## Песенька дыктатара

Я скажу вам чэсна і адкрыта,
Нічыво ў душы не утая:
Адабраць уладнае карыта —
Толькі паспрабуйце у міня!

Будзеце цярпець яшчо вы доўга —
Здзелаў выбар правільны народ...
Там, глядзіш, і падрасцёт Міколка…
Хочэт — пусць свабоду ўсім даёт…

Не прыемлет наш народ дзіктата
Ні з какой заморскай стараны.
Всем дадзім дастойную зарплату:
Міліон! Плюс — газ за паўцаны!

Всем дадзім агромную зарплату:
Міліон! Плюс — новыя штаны!

**Прыпеў:**
А эту свядомую сволач,
Каторай, сматру, развялось —
Загонім в калхозы на помашч,
Штоб нам яшчэ лучшэ жылось.
Не будзет здесь ружаў-гваздзікаў
І прочэва еўра-жулья…
І страшна падумаць, і дзіка:
Народ вдруг ізбрал не міня!
І страшна падумаць, і дзіка:
Народ палюбіл не міня!
І страшна падумаць, і дзіка:
Народ ізаброл не міня!
І страшна падумаць, і дзіка:
Народ не дастоін міня!

Нас не збіць з пуці, цем пачэ — з крэслаў,
(Я не раз пра эта гаварыл),
А ў Еўропе ўшывай, еслі чэсна,
Грязь, бардак, разруха — сам там был…
А ў Еўропе вашай, еслі чэсна,
Грязь, бардак і геі — сам там был…

У мяне старонніхаў полміра.
Я людзей сваіх не падвяду:
Всем, хто ЗА, — аддзельную кварціру
Гдзе-та так… у трохтысячным гаду…
Всем, хто ЗА, — бясплатную кварціру
Гдзе-та так ў… каком-нібудзь гаду…

**Прыпеў.**

Все мае дастойныя міністры
Прама так ў глаза і гаварат:
«Гэту мразь не пусцім і на выстрал,
Цех, хто абазваўся «дземакрат»…

Дай слабінку — і смотры, папёрла…
Можэт, счас начнём і баставаць?
Сыт я дзермакрацией па горла…
На работу! В стойла! Вашу маць…

Чэсць і слава ціхарам-героям,
Хлопцам ад матыгі і сахі,
Што закрылі ўсю страну сабою
І душылі гадаў, как маглі…

Заслужылі прэміі, ў натуры.
(Нет жа трупаў жэншчын і дзяцей!)
Хто там быў? — прэдацелі і дуры —
Всё у ніх не так, как у людзей!

**Прыпеў:**
А эту свядомую сволач,
Каторай, сматру, развялось —
Загонім в калхозы на помашч,
Штоб нам яшчэ лучшэ жылось.
Не будзет здесь ружаў-гваздзікаў
І прочэва еўра-жулья…
І страшна падумаць, і дзіка:
Народ вдруг ізбрал не міня!
І страшна падумаць, і дзіка:
Народ палюбіл не міня!
І страшна падумаць, і дзіка:
Народ ізаброл не міня!
І страшна падумаць, і дзіка:
Народ не дастоін міня!

# Мая Абромчык: Я не хачу з’язджаць з Беларусі

3 лютага «Нашу Ніву» наведала Мая Абромчык — тая самая дзяўчына, якой 19 снежня на Плошчы раздрабілі нагу. Перасоўваецца Мая пакуль толькі на мыліцах.

**«НН»: Мы з Вамі развіталіся ў бальніцы, пасля таго як карэспандэнтаў «Нашай Нівы» выгналі з палаты дактары. Калі ў нас на сайце з’явіўся рэпартаж пра Вас, калі выйшаў нумар газеты з Вашай гісторыяй, то было вельмі шмат зваротаў з пытаннем, як можна Вам дапамагчы. Ці дайшлі да Вас звароты, падарункі?**

**МА:** Так. Мне гэта вельмі дапамагло. Пасля ўсяго, што я перажыла, я магла ўвогуле страціць усякую веру ў людзей. А падтрымка не дазволіла гэтаму здарыцца. Дзякую ўсім, хто прыходзіў да мяне.

Пасля артыкула ў «НН» да мяне прыходзіла шмат людзей, як знаёмых, так і незнаёмых.

**«НН»: У выпісцы з бальніцы характар Вашай траўмы пазначаны як бытавы. Вам неяк патлумачылі гэта?**

**МА:** Дактары сказалі, што гэта судмедэкспертыза павінна вырашаць, а не яны.

**«НН»: Ці спрабавалі Вы звяртацца ў пракуратуру?**

**МА:** Так. Гэта было 27 снежня. Мы накіравалі скаргу. Адказ прыйшоў праз нейкі час, і там гаварылася, што мая скарга накіраваная ў міліцыю. Пасля ізноў яна вярнулася ў пракуратуру.

**«НН»: Як зараз выглядае справа? Вас выклікаюць, апытваюць?**

**МА:** Учора я ездзіла да пракурора. Ён мне паведаміў, што справа пакуль не заведзеная, а тэрмін яе разгляду падоўжаны да 17 лютага.

**«НН»: Гэта нечым патлумачылі?**

**МА:** Тым, што мая скарга шмат хадзіла па розных інстанцыях. Шчыра кажучы, я зараз не ведаю, ці завядуць увогуле гэтую справу...

**«НН»: Некалькі дзён таму Вы паведамілі нам, што ў лютым Вас чакае паўторная аперацыя. Гэта ўжо дакладна?**

**МА:** Гэта павінны вырашаць дактары. Цяпер я сябе добра адчуваю, расхаджваюся. Пазней мне зробяць здымак і стане вядома, што там з аперацыяй.

**«НН»: Як выглядаюць Вашы справы з навучаннем?**

**МА:** На факультэце ўсе ведаюць аб тым, што са мной адбылося. Кіраўніцтва факультэта пакуль са мной не звязвалася, я таксама не магла наведаць дэканат. Праз маю старасту мне перадалі, што мне лепш пайсці ў акадэмічны адпачынак.

**«НН»: Для Вас гэта прымальна?**

**МА:** Я б не хацела губляць час.

**«НН»: Думаю, што ў Вас зараз будзе магчымасць працягнуць навучанне за мяжой. Ці думалі Вы аб гэтым?**

**МА:** Так, думала. Я не хацела б з’язджаць з Беларусі. Але калі абставіны складуцца толькі такім чынам, то такі варыянт можа разглядацца.

**Алесь Пілецкі**




**Нумары рахункаў, на якія можна пералічыць сродкі для Маі**

Рахункі ў беларускіх рублях: філіял №510 ААТ «ААБ Беларусбанк», Мінск. Асабовы рахунак № 000052, 9004-Р / Дабрачынны рахунак BYR (0510/0132) Абромчык Мая Генадзьеўна.

Валютныя рахункі: філіял № 510 ААТ «ААБ Беларусбанк», г. Мінск. Асабовы рахунак № 000373,9000-Р / Дабрачынны рахунак USD (0510/0132) Абромчык Мая Генадзьеўна. Філіял № 510 ААТ «ААБ Беларусбанк», г. Мінск. Асабовы рахунак № 000036, 9005-Р / Дабрачынны рахунак EUR (0510/0132) Абромчык Мая Генадзьеўна

# Два адвакаты адмовіліся абараняць Халіп

На мінулым тыдні дамову на абарону разарвала Тамара Гараева.

Сваё рашэнне яна матывавала і без таго вялікім аб’ёмам працы. І паспяшалася запэўніць, што ніякага ціску на яе не было. Але пасля спробы Міністэрства юстыцыі прыцягнуць да дысцыплінарнага пакарання некаторых адвакатаў, хто займаецца справамі ўдзельнікаў Плошчы, у звычайную занятасць юрыста не верыцца.

Гэта ўжо другі адвакат, што адмовіўся ад абароны Халіп. Перад гэтым тое ж зрабіў Уладзімір Тоўсцік. Па словах Уладзіміра Халіпа, бацькі Ірыны, гэта быў вымушаны крок. Маўляў, у Тоўсціка пагражалі забраць ліцэнзію.



Зараз Ірыне знайшлі яшчэ аднаго адваката. Бараніць яе ўзялася Ганна Бахціна. Але сустрэчы з падабароннай яшчэ не было: гэты працэс займае нейкі час. Уладзімір Халіп спадзяецца, што да канца тыдня адвакат зможа наведаць дачку.

На думку праваабаронцаў, гэтая чахарда мае на мэце «навязаць» журналістцы дзяжурнага адваката, выпадковага, які не мае зацікаўленасці ў добрым вырашэнні справы падабароннага. Гэта можа здарыцца ў выпадку, калі ніводзін адвакат не захоча працаваць з Халіп. Замяніць нанятых адвакатаў на дзяжурных спрабавалі Наталлі Радзінай і Алесю Міхалевічу адразу пасля іх затрымання 20 снежня.

У справе па так званых «беспарадках» у Мінску 19 снежня, па якой праходзіць Ірына Халіп, на сёння 43 абвінавачаныя і 12 падазраваных. Іх абараняюць 44 адвакаты. Згодна з заканадаўствам, у межах адной крымінальнай справы адвакат можа бараніць неабмежаваную колькасць асобаў, калі толькі яны не даюць супрацьлеглыя сведчанні. Але брацца больш як за дзве справы юрысты не рашаюцца. Тлумачыцца гэта вялікай нагрузкай. Толькі Аляксандр Галіеў узяўся бараніць трох чалавек.

**Сяргей Макарэвіч**

# Маці і сястра міліцыянта Класкоўскага дзякуюць шведскаму ўраду

Людміла і Вольга Класкоўскія звярнуліся да шведскага ўрада з адкрытым лістом. У ім яны дзякуюць за пазіцыю Швецыі ў беларускім пытанні. Яны просяць «выкарыстаць у далейшым усялякія палітычныя і эканамічныя механізмы, каб спыніць нарэшце бясконцыя рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасці Беларусі».

Аляксандр Класкоўскі, былы міліцыянт, — адзін з 54 асобаў, што праходзяць па справе аб «беспарадках» 19 снежня. Ён быў адным з актыўных удзельнікаў акцыі пратэсту супраць дыктатуры ў Беларусі.

Ягоныя маці і сястра ўжо некалькі гадоў як жывуць у Швецыі.

**Сяргей Гезгала**

# Эдуард Лобаў — дэсантнік, маладафронтавец

18 лютага можа пачацца суд над Змітром Дашкевічам і Эдуардам Лобавым.

Хлопцаў абвінавачваюць у злосным хуліганстве. Нібыта яны за дзень да выбараў у адным са спальных раёнаў Мінска збілі людзей. У Лобава пры гэтым у заплечніку знайшлі цвікадзёр.



**Эдуард Лобаў (на фота справа).**

Цяпер Лобаў і Дашкевіч знаходзяцца ў Жодзінскім СІЗА, дзе і чакаюць суда. Калі пра асобу Дашкевіча вядома шмат чаго, то Лобаў застаецца малавядомым.

Эдуарду Лобаву 22 гады. Ён мінчанін. Хлопец прызнаваўся, што ўжо ў восьмым класе вырашыў звязаць сваё жыццё з войскам. Чытаў адмысловую літаратуру, займаўся спортам.

На службу Лобаў трапіў у Віцебскі дэсант. Але служба яго расчаравала. Ён сутыкнуўся з многімі рэчамі, якія не мелі ніякага дачынення да службы, але іх трэба было выконваць. І гэта ў элітным спецназе.

Якраз у той самы час туды быў прызваны гомельскі «маладафронтавец» Андрусь Цянюта. Менавіта Цянюта загітаваў Лобава далучыцца да Маладога Фронту.

За колькі дзён да дэмбеля Лобаў быў зняволены на гаўпвахце адразу за Цянютам. Па вяртанні са службы Лобаў актыўна ўключаецца ў працу МФ. Яму давяраюць кіраваць мінскай гарадской арганізацыяй.

Але цікавасць да войска ў Лобава не праходзіць. У ягоных інтарэсах на сайце «Вконтакте» напісана: «Ваенная справа, адраджэнне беларускай народнай арміі».

З турмы Лобаў піша, што ўмовы там не горшыя, чым у войску, а можа, нават і лепшыя. Пару тыдняў таму за адмову сведчыць на маладафронтаўцаў Лобава пагражалі перавесці ў іншую камеру, дзе з ім сукамернікі расправяцца. Але пакуль усё ціха.

**Зміцер Панкавец**

# 25 Сакавіка — шэсце салідарнасці з палітвязнямі

Пачалася падрыхтоўка да Дня Волі.

7 лютага ў Мінску прадстаўнікі Руху «За Свабоду», БНФ і іншых структур абмеркавалі фармат правядзення Дня Волі.

Была прапанова ад БНФ, яе і ўхвалілі аднагалосна.

Акцыя пачнецца 25 сакавіка ад Акадэміі навук. Асноўнымі лозунгамі будуць вызваленне ўсіх палітвязняў і спыненне рэпрэсій. Будзе прысутнічаць таксама тэма захавання незалежнасці.

Заяўнікамі акцыі гатовы стаць Аляксандр Мілінкевіч і Аляксей Янукевіч.

**ЗП**

# Кандыдат эканамічных навук застаўся без працы

Выкладчыка Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта харчавання змусілі звольніцца за палітыку.

«У сярэдзіне навучальнага года дацэнты самі не звальняюцца. Бо ісці няма куды — усе штаты ўкамплектаваныя», — кажа кандыдат эканамічных навук Пятро Мігурскі. І тлумачыць, што заяву на звальненне яго прымусілі напісаць. Ён быў даверанай асобай Уладзіміра Някляева.

Сп.Мігурскі сказаў, што з адміністрацыяй універсітэта было некалькі размоў наконт яго дзейнасці, пасля чаго ён звольніўся. Але прэтэнзій ні да рэктара ўніверсітэта, ні да дэкана эканамічнага факультэта не мае.

«Адміністрацыя — выканаўца загадаў іншых структур». Ён упэўнены, што загад сыходзіў з КДБ. Менавіта супрацоўнікі гэтай структуры спрабавалі завербаваць выкладчыка. Але безвынікова.

Пятро Мігурскі баіцца, што працы ў Беларусі не знойдзе. Хіба толькі вартаўніком, на што ён сам не пойдзе. Таму не выключае магчымасці з’ехаць працаваць у іншую краіну.

**Сяргей Макарэвіч**

# «Мясніковічы ніколі ў КДБ працаваць не будуць!»

Працяг са старонкі 1.

Мясніковічы лічыліся заможнымі — у іх былі 12 гектараў зямлі, вялікі сад, луг, стаў са сваёй рыбай, пуня, гумно, добрыя коні...

Калі людзей з хутароў заганялі ў калгасы, давялося пераносіць хаты ў суседнюю вёску Горны Сноў. Побач знаходзіўся палац Рдултоўскіх. Пяць гадоў таму яго забралі ў вайсковай часці і перадалі памежнікам і КДБ. Цяпер яго забаронена нават фатаграфаваць.

У вёсцы па-ранейшаму жывуць стрыечны брат прэм'ер-міністра Антось Мясніковіч і ягоная жонка Галіна Ільінічна, якая была сваццяй на вяселлі славутага сваяка. Цяпер яна пенсіянерка, а яшчэ некалькі гадоў таму кіравала мясцовым крухмальным заводам. Іх чатырохпакаёвая хата, абабітая сайдынгам, адразу вылучаецца сярод суседніх. Гараж, металічныя дзверы і падлога, выкладзеная нятаннай пліткай, — някепска жывецца ў Снове!

Сноў вядомы беларусам узорным агракамбінатам. Ягонага былога старшыню Міхаіла Карчміта назвалі нават Героем Беларусі. Хоць пагаворваюць, што сваімі поспехамі агра-Сноў перадусім мусіць быць удзячны іншаму Міхаілу — Мясніковічу, чыя пратэкцыя і дапамагла здабыць інвестыцыі і раскруціць брэнд да рэспубліканскага маштабу.

## Маладзён у 68 гадоў

Бацькі Мясніковіча былі звычайнымі работнікамі ў калгасе.

«У вайну Уладзімір трапіў у армію, — пачынае свой расповед Галіна Ільнічна. — Дык ён расказваў, што расіяне ў акопах увесь час мацюкаліся, а яны, беларусы з палякамі, усё хрысціліся, як бачылі, што бомбы людзей разрывалі... Мясніковічы былі майстрамі на ўсе рукі. Калі ў вёсцы ўтварыўся калгас, то ён стаў брыгадзірам у паляводчай брыгадзе, а ягоны брат — у будаўнічай».

Дарэчы, хата Галіны Ільнічны і яе мужа да еўрарамонту была зробленая менавіта рукамі дзядзькі Мясніковіча. «Бацька Мясніковіча памёр маладым, — кажа яна і адразу ўдакладняе: — У 68 гадоў».

Такой зараджанасці на жыццё можна толькі пазайздросціць. Маці, Вольга Адамаўна, працавала рознарабочай у калгасе. Калі засталася без мужа, з'явіліся праблемы з нагамі. Давялося прадаваць хату іншым людзям і пераязджаць да дачкі ў Мінск. У сям'і было двое дзяцей: старэйшы Міхаіл і малодшая Аляксандра. Сястра Мясніковіча так і не стварыла сям'ю і цяпер працуе інжынерам-тэхнолагам на «Кераміне» ў Мінску.

## Памяць — гэта сямейнае

У пачатковыя класы маленькі Міша хадзіў у суседнюю вёску Агароднікі, а пасля вучыўся ў Снове. «Вучыўся проста выдатна! — узгадвае Галіна Ільінічна, якая жыла па суседству. — У яго была цудоўная памяць. Гэта ў Мясніковічаў сямейнае».

**Мясніковіч бывае на магілах бацькоў кожную Радуніцу, толькі на дзень раней, каб было менш людзей.**

Пасля школы была вучоба ў Брэсцкім інжынерна-будаўнічым інстытуце. У Снове засталося шмат сяброў прэм'ер-міністра. Калі ён прыязджае на малую радзіму, то часцяком сустракаецца з імі ў рэстаране крухмальнага завода.

Заязджае і на магілы бацькоў — кожную Радуніцу, толькі на дзень раней, каб было менш людзей.

Міхаілу прапаноўвалі вяртацца з Брэста ў Сноў. Але па накіраванні Мясніковіч трапіў у Мінск. Паспеў паслужыць і ў войску — у Польшчы.

## Няўдалы вопыт КДБ

У Мінску малады інжынер «Водаканала» знайшоў жонку. Вяселле з Людмілай згулялі, калі Міхаілу было 25 гадоў.

«У першы дзень гулялі ў Мінску, у трохпакаёвай кватэры ў нявесты, а пасля прыехалі ў Сноў. Як мы тут танцавалі! Калі Міша жаніўся, сябры з боку нявесты пыталі, яўрэй жаніх ці грузін — такі смуглявы быў», — дзеліцца ўспамінамі Галіна Ільінічна, намякаючы на нетыповы для Беларусі колер скуры Мясніковіча.

Неўзабаве ў сям'і з'явілася папаўненне. Старэйшая дачка, Вольга, цяпер займаецца міжнародным гандлем у сферы хімікатаў. У яе ёсць сын Мікіта, які пакуль што ходзіць у школу.

Малодшае дзіця Мясніковіча — сын Дзмітрый, які закончыў у Мінску сувораўскае вучылішча. Пасля бацька адправіў яго ў акадэмію ФСБ у Маскве. У часы незалежнасці ўжо мала хто з беларусаў вучыўся на чэкіста ў Расіі, але Мясніковіч паспрабаваў адправіць сына менавіта па гэтай сцежцы.

«Дзіма папрацаваў у КДБ, але яму там не спадабалася. А я заўсёды казала, што Мясніковічы гэтым займацца не будуць», — з гонарам кажа прадстаўніца роду.

Цяпер сын прэм'ера працуе ў прыватнай кампаніі, а ў ягонай сям'і нарадзіўся маленькі Міша, названы ў гонар дзеда.

Жонка Мясніковіча Людміла ўжо выйшла на пенсію. Раней яна працавала галоўным эканамістам «Белпрамбудбанка».



**Міхаіл Мясніковіч**

нарадзіўся 6 мая 1959 у вёсцы Новы Сноў Нясвіжскага раёна. Скончыў Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1972) і Мінскую Вышэйшую партыйную школу (1989), доктар эканамічных навук (1998). Працаваў інжынерам на «Водаканале», пасля галоўным інжынерам прадпрыемстваў камунальнага абслугоўвання Мінгарвыканкама і кіраўніком гэтага ўпраўлення. У 1984 прызначаны намеснікам старшыні Мінгарвыканкама, у 1986—1990 быў міністрам ЖКГ БССР. З 1990 — намеснік старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня Дзяржкамітэта БССР па эканоміцы і планаванні. У 1991—1994 — першы намеснік прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, узначальваў яго выбарчы штаб на прэзідэнцкіх выбарах. У 1994—1995 — намеснік прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра. З 1995 да 2001 быў кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта. У 2001 прызначаны кіраўніком Нацыянальнай Акадэміі навук. З 28 снежня 2010 — прэм'ер-міністр Беларусі.



**Фота з сямейнага альбома. Вяселле Людмілы і Міхаіла.**



**Вялікая сям'я Мясніковічаў.**

## Кватэрнае пытанне Мясніковічаў

Статус кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта запатрабаваў і адпаведнага жылля — доміка ў Драздах. Каб пабудаваць катэдж, Мясніковічу давялося прадаць мінскую кватэру і лецішча. Па ягоных словах, яшчэ і ўзяць крэдыт.

Гэты факт абвяргае спіс самых багатых людзей Беларусі, які з'явіўся ў пачатку 2000-х гадоў. У тым рэйтынгу Мясніковіч быў названы пятым, з багаццем у $290 мільёнаў. «У яго маленькі домік у параўнанні з суседнімі. Акуратны, кампактны — і саўна ёсць, і басейн», — хваліцца сваяком Галіна Ільнічна.

Дзеці Мясніковіча жывуць асобна ад бацькоў, але кватэрнае пытанне не стаіць перад імі востра. Дачка Вольга атрымала ад бацькоў у падарунак кватэру — і неўзабаве прадала яе. Зразумела, адразу ж стала на чаргу «на паляпшэнне жыллёвых умоў». Пабудавала сабе нейкім чынам кватэру на льготных умовах— відаць, праз працу, бо па агульнай чарзе пачынаюць будавацца тыя, хто станавіўся на ўлік у 1990 годзе, — але прадала і яе.

Дык ці ёсць бізнэс у Мясніковічаў? «Ніякага бізнэсу няма — толькі дзяржаўная служба! — пасля секунднай затрымкі пачынае зацята пераконваць сваця. — І ў дзяцей свайго бізнэсу няма!»

## Містар Спакой

Калісьці даўно Міхаіл Уладзіміравіч складаў свой радавод. Ці са шляхты паходзяць Мясніковічы? «Не памятаю, — прызнаецца Галіна Ільінічна. — Міша так даўно гэты радавод нам чытаў, што я забылася ўжо. Але радавод дакладна не з простых людзей!»

А які Мясніковіч па жыцці? «Такі кампанейскі! — не нарадуецца сваця. — Ён стараецца і ў кар'еры паспяваць, і ў сям'і. Такіх мэтанакіраваных людзей на свеце насамрэч мала. Не бывае сітуацый, каб ён на кагосьці голас павысіў! Калі жонка на яго з дакорам паглядзіць — штосьці не спадабалася, — адразу пачырванее. Але голас усё роўна не павысіць. Я ў жонкі пыталася: «Вось ты шчаслівая?» Адказвае: «Не заўсёды». Раней за дзесяць вечара дома яго чакаць не варта. Настолькі заняты чалавек. А ёй усё ж хацелася б больш увагі. А якая яму пенсія? Як Лукашэнка яго прэм'ерам угроб, дык будзе яшчэ пяць гадоў дубіць!»

Са сваякамі Міхаіл Мясніковіч сустракаецца часта. Пра гэта сведчаць сямейныя фотаздымкі. «Вось тут — мы ў гасцях у майго малодшага сына. А тут — Міша прыязджаў мяне з юбілеем віншаваць, 50 гадоў мне было. Яго на палове шляху Лукашэнка выклікаў, павярнуў назад. А ён усе справы высветліў і ўсё адно да нашага святкавання далучыўся. Бо сям'я для яго не менш важная, чым кар'ера», — падсумоўвае Галіна Мясніковіч.

**Яўген Васількоў,**
**Адар'я Гуштын, Мінск —**
**Новы Сноў — Мінск**

# Частка XIV. Хрост: дзяржава і вера

Піша **Алег Дзярновіч.**

**Працяг. Пачатак у № 26,28, 30,39, 47 за 2009 год, № 7, 22, 27, 29, 34, 39 за 2010 год.**

У самым канцы I тысячагоддзя ад Нараджэння Хрыста Русь стала часткаю ўсходнехрысціянскага свету. У якасці афіцыйнай і літаратурнай мовы замацавалася рафінаваная версія славянскіх балканскіх гаворак, сканструяваная грэцкімі кніжнікамі. Усё гэта мела вырашальнае значэнне для гісторыі Усходняй Еўропы ў наступным тысячагоддзі.

## Хрышчэнне Русі: перадгісторыя

Увядзенне ў Кіеўскай Русі хрысціянства як дзяржаўнай рэлігіі адбылося ў канцы X ст. пры князю Уладзіміру. Крыніцы даюць супярэчлівыя звесткі пра дату хрышчэння. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што хрост адбыўся ў 990 ці 991 гадах. Але традыцыйна, услед за храналогіяй «Аповесці мінулых часоў», гэтую падзею датуюць 988 г. Пашырэнне хрысціянства было не справай адной акцыі, а цэлым працэсам.

Яшчэ ў IX ст. кіеўскія князі Аскольд і Дзір са сваімі баярамі прынялі хрост ад епіскапа, дасланага канстанцінопальскім патрыярхам Фоціем I. Адбылося гэта пасля выправы русі на Канстанцінопаль у 860 г. Руская епархія значыцца ў спісе канстанцінопальскіх епіскапстваў спачатку на 61-м, а потым на 60-м месцы. Гэтыя падзеі атрымалі назву Фоціевага ці Аскольдавага хросту. Але ў 882 г. Аскольда і Дзіра забіў наўгародскі князь Алег, звінаваціўшы іх ва ўзурпацыі ўлады.

Таму хрост IX ст. не паўплываў рашуча на змену канфесійнай сітуацыі на Русі. Хоць хрысціяне рэгулярна надалей сустракаліся сярод тагачаснай эліты — хрысціянкай была бабка Уладзіміра княгіня Вольга; паводле аднаго са спрэчных (Іаакімаўскага) летапісаў, сімпатыі да хрысціянства выяўляў кіеўскі князь Яраполк Святаслававіч.

Кіеўскі ж князь Уладзімір, якога лічаць хрысціцелем Русі, ішоў да хросту няпростым шляхам. Спачатку ён спланаваў грандыёзную рэформу паганскага культу.

## Язычніцкая рэформа

На загад Уладзіміра ў Кіеве было створана цэнтральнае паганскае капішча, дзе ўзвялі куміраў (ідалаў) Перуна, Хорса, Дажбога, Стрыбога, Сімаргла і Макошы. Характэрна, што ў гэтым пераліку не было Вялеса. Паводле класікаў індаеўрапеістыкі Вячаслава Іванава і Уладзіміра Тапарова, у іх рэканструкцыі так званага «асноўнага міфа», Вялес, бог жывёлаў, быў антаганістам Перуна-грамавержца, які краў ягоныя статкі. Культ Вялеса ў абліччы Мядзведзя існаваў у дняпроўскіх балтаў жалезнага веку (Юхнаўская культура), а народная казка падае мядзведзя ў выглядзе дэманічнага ляснога ўладара, які збірае даніну з людзей. Якія б матывы ні меў Уладзімір, але ён узнёс Перуна, бога княскай дружыны, і зрынуў Вялеса. Апроч таго, ёсць звесткі, што кіеўскі князь, паводле скандынаўскага звычаю, увёў практыку чалавечых ахвярапрынашэнняў.

Летапісец распавядае, як у 983 г., пасля паспяховага паходу на тэрыторыю Беларусі супраць ятвягаў, Уладзімір збіраўся «зрабіць трэбу» кумірам. Было кінутае жэрабя, і выбраны быў «з-за зайдрасці д'ябла» сын аднаго варага-хрысціяніна. Дружыннікі Уладзіміра скіраваліся да дома гэтага варага, кажучы, што багі зрабілі свой выбар. Той адказаў: «Не богі гэта, а дрэва: сёння ёсць, а заўтра згіне... Не аддам свайго сына д'яблам». Так ён і стаяў з мячом і са сваім сынам у сенцах, пакуль зноў дасланы аддзел не знішчыў яго двор з усімі абаронцамі. Тыя варагі сталі адным з першых хрысціянскіх пакутнікаў Русі, вядомыя пад імёнамі Фёдар і Іван.

Ёсць і звесткі пра сімпатыю папярэдніка Уладзіміра, князя Яраполка, да хрысціянства і пра яго кантакты з лацінскім Захадам. У такім разе, стварэнне язычніцкага пантэона стала паганскай рэакцыяй на спробы ўмацавання хрысціянства ў Кіеве. Археалагічным пацвярджэннем гэтага можа быць знаходка на месцы ўзведзенага Уладзімірам галоўнага капішча рэштак мураванай пабудовы са слядамі фрэскавага роспісу — верагодна, у часы Яраполка Святаславіча там мог існаваць хрысціянскі храм.

## «Выпрабаванне вераў»

У канцы X ст. усё менш заставалася месца для дзяржаўнай паганскай рэлігіі. Мнагабожжа не спрыяла ўмацаванню княскай улады; пры замежных кантактах з хрысціянамі князь і яго падданыя-паганцы адчувалі дыскрымінацыю. Але найважнейшым недахопам дзяржаўнага паганства было тое, што яно не паспела падрыхтаваць інтэлектуальную інфраструктуру для маладой дзяржавы. Вярхоўнай уладзе і дзяржапарату патрабавалася пісьмовасць ды іерархічная выбудова грамадства. Дзяржаўная іерархія не карэлявалася з іерархіяй прыродных сілаў, што прапаноўвала традыцыйная вера. Заснаванне паганскага пантэона і антыхрысціянскія рэпрэсіі не вырашалі гэтых праблемаў. І князь Уладзімір заставаўся ў пошуках новай мадэлі дзяржавы.

Хістанні князя знайшлі вобразнае выяўленне ў паданні пра «выпрабаванне вераў» (выбар веры) — Уладзімір і ягонае атачэнне вывучалі монатэістычныя рэлігіі: юдаізм, мусульманства і хрысціянства абедзвюх версій.

Паводле летапіснай храналогіі, перамовы з прадстаўнікамі канфесій адбываліся ад 986 г. Падчас гэтых сустрэч-лекцыяў з вуснаў Уладзіміра прагучала сакраментальная выснова адносна забароны ўжываць віно ў мусульманаў: «Русі ёсць вясёласць у піцці: не можам без таго быць». Шмат у чым адмовы Уладзіміра ад той ці іншай рэлігіі былі звязаныя з побытавымі абмежаваннямі, якія яна несла. Але стаўкай быў і цывілізацыйны выбар.

У мусульманстве, якое прапаноўвалі волжскія булгары, для Уладзіміра былі непрымальныя абразанне і адмова ад свініны. У хазараў, якія прапанавалі юдаізм, Уладзімір запытаўся: «Але дзе ёсць [святая] зямля вашая?» Тыя адказалі: «У Ерусаліме». Уладзімір перапытаўся: «Ці сапраўды там ёсць?» На што юдзеі ўжо адказалі: «Угневаўся Бог на бацькоў нашых і раскідаў па розных краях...» Уладзімір зрабіў лаканічную выснову: «Дык як жа вы іншых вучыце, калі самі адрынутыя ад Бога...»

## Выбар шляху

Складаней было зразумець розніцу паміж заходнім і ўсходнім хрысціянствам. І хоць пасланнікі Папы адразу заявілі Уладзіміру, што «зямля нашая такая ж, як і твая», кіеўскі князь прыгадаў, што «айцы нашыя гэтага не прынялі». Даследчыкі бачаць у такім адказе водгулле місіі германскага імператара, які ў 962 г. накіраваў у Кіеў біскупа на просьбу княгіні Вольгі. Гісторыкі мяркуюць, што няўдача місіі была выкліканая антыхрысціянскімі настроямі яе сына Святаслава.

Затое ўсходнехрысціянскае набажэнства выклікала захапленне ў паслоў Уладзіміра. Лацінская літургія падалася ім значна сціплейшай. Звесткі пра такую рэакцыю дружыннікаў не абавязкова могуць быць ангажаванай занатоўкай праваслаўнага манаха-летапісца. У X ст. Захад яшчэ не дасягнуў тых формаў цывілізацыі, якія ў далейшым будуць вызначаць яго дынамічнае развіццё, а Візантыя была ў зеніце росквіту. Толькі вельмі пранікнёныя маглі бачыць сімптомы будучай стагнацыі. Да таго ж, Русь сапраўды арыентавалася на хрысціянскі Усход. Каб кантраляваць шлях на Візантыю ва Усходнюю Еўропу, і прыйшлі варагі. Таму нічога нечаканага ў «візантыйскім выбары» кіеўскай эліты няма.

Класік украінскай гістарыяграфіі Міхайла Грушэўскі пісаў: «Візантыя была блізкай геаграфічна, а культура яе — і духоўная, і матэрыяльная, стаяла без параўнання вышэй; гэта, можна так сказаць, быў гарачы ясны дзень, тым часам як над Нямеччынай узыходзіла бляклая дзянніца».

## Пярун у рацэ

Намер прыняць рэлігію ад той ці іншай дзяржавы зусім не азначаў спыненне з ёй канфліктаў. Уладзімір увязаўся ва ўнутрыпалітычную барацьбу ў Візантыі. У 987 г. Канстанцінопаль заключыў саюз з Уладзімірам супраць мяцежнага армянскага военачальніка Варды Фокі, але кіеўскі князь у выніку захапіў візантыйскі горад Корсунь (Херсанес, сёння на тэрыторыі Севастопаля). Уладзімір патрабаваў сабе ў жонкі сястру імператараў Васіля і Канстанціна Ганну. Візантыя пагаджалася, але толькі на ўмовах хрышчэння Уладзіміра.

У 987 г. князь прыняў хрост у Корсуні. Далей павінна была наступіць чарга Кіева. Каб маральна зламаць апазіцыю паганцаў, з капішча, створанага раней на загад Уладзіміра, былі скінутыя куміры. Адных пасеклі, іншых спалілі. Перуна ж князь загадаў прывязаць да хваста каня і цягнуць з гары да Дняпра. Ідала скінутага бога малацілі палкамі: «Рабілася гэтак не таму, што дрэва нешта адчувае, але дзеля знявагі д'ябла...»

У візантыйскай літаратуры хрышчэнне 988 г. практычна не адлюстраванае — паводле ўяўленняў грэкаў, зварот Русі да хрысціянства адбыўся на стагоддзе раней — пры Аскольдзе.

На шмат якіх тэрыторыях хрысціянства ўводзілася праз прымус і рэпрэсіі. Паводле летапісных звестак, у Ноўгарадзе ўспыхнуў «мяцеж валхвоў». Наўгародцы былі ахрышчаныя з ваеннай дапамогай кіеўскага ваяводы Дабрыні і тысяцкага Пуцяты. Дабрыня, брат маці Уладзіміра Малушы, верагодны прататып рускага волата Дабрыні Нікіціча, — гэта той самы ваявода, які нацкоўваў Уладзіміра на Рагвалода і на Полацк. З часоў здушэння ўзброенага выступлення паганскай эліты паходзіць прымаўка «Пяцата хрысціць мячом, а Дабрыня агнём».

Першыя епіскапскія кафедры былі заснаваныя, апроч Кіева, у Ноўгарадзе, Чарнігаве, Уладзіміры-Валынскім і Белгарадзе (цяпер сяло Белагародка пад Кіевам). Беларускія гарадскія цэнтры ў гэтым спісе не фігуруюць. Хрысціянізацыя Беларусі мае сваю перадгісторыю і сваіх персанажаў.

Пра гэта — у наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».



Мініяцюра, на якой, як прынята лічыць, выяўлены стод Перуна, пастаўленага Уладзімірам. Радзівілаўскі летапіс (XV ст.).



**«Златнік» Уладзіміра — першая руская залатая манета, бітая ў Кіеве пасля хрышчэння Русі. Партрэт Уладзіміра: князь сядзіць у шапцы з крыжам. Унізе схематычна выяўленыя сагнутыя ногі. Правай рукой князь трымае крыж, левая рука на грудзях. Над левым плячом выяўлены Трызуб — родавы знак Рурыкавічаў. Знойдзена толькі 11 падобных манетаў.**

# Дзембельскі альбом

фатографа **Сяргея Гудзіліна**.

Фатограф з Жодзіна Сяргей Гудзілін пайшоў служыць. Разам з усімі аднагодкамі. Але падчас службы ён не спыняў здымаць. З гэтага выйшаў цікавы альбом. На яго фотах — не толькі сцэны з афіцыйных мерапрыемстваў, але і прыватнае жыццё салдатаў, у тым ліку нефармальныя салдацкія рытуалы.

**«Наша Ніва»: Як ты здолеў захаваць фотаапарат у казарме?**

**Сяргей Гудзілін:** Камандаванне даведалася, што я фатограф, і папрасіла рабіць для часці здымкі з мерапрыемстваў і побыту — вось быў у мяне такі афіцыйны занятак.

**«НН»: Як да фотасесій ставіліся саслужбоўцы?**

**СГ:** Часам быў недавер. У салдат былі падазрэнні — ці не для афіцэраў я здымаю?

**«НН»: А як тады ўдавалася здымаць салдацкія рытуалы?**

**СГ:** Як і на любым сямейным ці карпаратыўным свяце. Павінен жа быў гэта нехта здымаць.

Насамрэч усё не так жорстка, як уяўляецца. Хаця і прыйшлося пазбягаць пэўнай персаналізацыі. Я разглядаў гэтую з'яву шырэй — не проста як дыскрымінацыю салдатаў у залежнасці ад тэрміну службы, а як унікальны субкультурны феномен у межах сістэмы.

**«НН»: Якія праявы дзедаўшчыны даводзілася бачыць?**

**СГ:** «Пераводы» з аднаго перыяду ў другі, напрыклад. Але ім надаецца ўсё менш увагі... Фізічны гвалт практыкуецца ўсё менш і менш.

**«НН»: Цяпер у Беларусі не вельмі спакойна, гэта адчуваецца за вайсковым плотам?**

**СГ:** Ніяк не адчуваецца. Калі яшчэ і за навінамі не сачыць, то можна палічыць, што гэта самае спакойнае месца ў краіне.

**«НН»: Ты заспеў Плошчу ў арміі. Як да падзей у Мінску ставіліся ў часці?**

**СГ:** Салдатам усё тлумачыў па тэлевізары прэзідэнт на прэс-канферэнцыі 20 снежня — такі спецыяльны пункт у раскладзе дня быў. Афіцэры пазбеглі ацэнак.

**«НН»: Як у войску галасуюць? Не прымушалі галасаваць за Лукашэнку?**

**СГ:** На здзіўленне, надзвычай вольна прайшлі гэтыя выбары ў войску. Ніводзін нампаліт часці не выказаў «свайго ўласнага меркавання пра кандыдата(ў)». У нас нават на датэрміновае галасаванне не заганялі. Салдатам сказалі: пачалося галасаванне, можаце галасаваць тады, калі пажадаеце. Але салдат — ён жа заўсёды шукае асабістай выгады, таму большасць хадзіла датэрмінова. Сказаў начальніку: пайду прагаласую, ну і ў працоўны дзень ходзіць, паўдня «галасуе», абы куды на працу не адправілі...

**«НН»: Ты ажаніўся ў войску. Як гэта адбылося?**

**СГ:** У войска будучая жонка праводзіла мяне ў статусе нявесты. Восенню 2009 года я прапанаваў ёй руку... перапісваючыся ў блогу. Ажаніліся пры канцы снежня мінулага года. Але то была звычайная рэгістрацыя ў ЗАГСе — афармленне адносін для дзяржавы. Сапраўдны шлюб адбудзецца ўлетку, пасля вянчання.

**Гутарыў Сямён Печанко**



**Першы дзень у войску.**



**Падшыванне каўнерыка.**



**Штодзённы прагляд праграмы «Панарама».**



**Новы год у войску. Хто хутчэй з'есць торт?**

Усё не так жорстка, як уяўляецца.



**Новы год у войску. Конкурс: хто хутчэй накорміць смятанай.**



**Сяргей Гудзілін**

нар. у 1987 у Жодзіне. Быў сябром Маладога фронту. Пасля Плошчы-2006 паступіў у ЕГУ на аддзяленне «Медыі і камунікацыі». Прафесійна займаецца фатаграфіяй. Супрацоўнічаў з газетай «Прессбол».



**Дзень нараджэння ў войску. Усе саслужыўцы аддаюць імянінніку сваю дзённую порцыю масла. Ён мусіць з'есці, інакш рэшту ўкладуць у шапку, змусяць адзець на галаву і есці ў казарму.**



**Адзін з галоўных ворагаў беларускіх жаўнераў — снег.**

# Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн. Эквадор

Яны прыляцелі ў Нью-Ёрк у красавіку без цэнта ў кішэні. З сабой маюць спальнікі, лекі і табурэт, які прысягнулі паставіць на мысе Горн. А яшчэ гітару, скрыпку ды трубу, з дапамогай якіх зарабляюць па дарозе. За сем месяцаў яны прайшлі-праехалі аўтаспынам і пехадралам усе ЗША, Мексіку, цэнтральнаамерыканскія Гватэмалы і Гандурасы. «Наша Ніва» публікуе захапляльныя падарожныя дзённікі Аўгіні Манцэвіч. Трое беларусаў ладзяць аўтастоп праз абедзве Амерыкі. Гэта Кірыла Краўцоў — капітан каманды, фатограф, трубач. Гэта Аўгіня Манцэвіч — журналістка, скрыпачка, акрабатка і аўтарка гэтага дзённіка. Гэта Верасень — аператар, гітарыст.


Якая будучыня чакае гэтых дзяцей у глабалізаваным свеце?

**Працяг. Пачатак у №46, 47 за 2010, № 2—5 за 2011.**

### Слухаць вулкан

Час ад часу ішоў град. А бывала, вяртаемся з горада, а дарогу дадому завалiла снегам.

Увогуле, надвор'е тут прыкладна аднолькавае кожны дзень. З раніцы да абеду паліць сонца, а вечарам набягаюць хмары, становіцца холадна ды ідзе дождж.

Па дарозе на Кіта нас забраў дальнабой Віктар. Прыехалі ў нейкі маленькі гарадок ужо зацемна. Віктар прапанаваў пераначаваць у яго. Кватэра дальнабоя як дзве кроплі вады падобная на пакой у матэлі: два ложкі, туалет з душам і старэнькі чорна-белы тэлевізар. І акрамя паўпустых бутэлек ад кока-колы, больш ніякіх рэчаў.

А вы, дарэчы, ведалі, што на экватары, мала таго што неверагодна горача (сонца тут найбліжэй да зямлі і апоўдні палымаецца роўна над галавою), дык яшчэ і суха? Тут сапраўдная пустыня з кактусамі, калючкамі і алоэ.

Але гэта, вядома ж, толькі частка эквадорскага клімату. Акрамя халодных і снежных гораў ды гарачай і сухой пустыні, тут ёсць і душныя вільготныя джунглі.

Пасля еўрапеізаванай і амерыканізаванай Калумбіі Эквадор парадаваў вялікай колькасцю індзейцаў. Да таго ж, у нацыянальных строях.

Якраз у час нашага знаходжання ў Эквадоры праходзіў перапіс насельніцтва.

Ніхто, акрамя перапісчыкаў, міліцыянтаў, пажарнікаў і супрацоўнікаў хуткай дапамогі, не меў права выходзіць на вуліцу. Не працавала ніводная крама, не хадзіў грамадскі транспарт. Уся краіна — як пасля апакаліпсісу: пустыя бязлюдныя вуліцы. І да нас завіталі перапісчыкі. На нашае здзіўленне, тут перапісваюць не толькі эквадорцаў, але і замежнікаў.

Пазначылі ўсё: нацыянальнасць, узрост, адукацыю... Праўда, на графе «раса» крыху запнуліся. «Бланка?» — уважліва гледзячы на мяне, запытала перапісчыца. «Покіто роха» (трохі чырвоная), — сказала я, паказваючы свой абгарэлы на эквадорскім сонцы твар. Так што цяпер, згодна з афіцыйным перапісам насельніцтва, у Эквадоры жыве, прынамсі, два беларусы.

З Кіта ў бок Перу нас падвезла Марыя з дачкой Рэнатай. Жывуць яны каля таго самага вулкана Тунгураўа, пра вывяржэнне якога пісалі СМІ. Колькі Марыя сябе памятае, вулкан быў актыўным, і ў ясны дзень можна пабачыць не толькі дым і попел, але нават полымя. Ніколі не думала, што ля актыўнага вулкана можна жыць. Але тутэйшыя звыкліся да такога.

Марыя запрасіла нас да сябе пераначаваць, а заадно і звазіла да сваіх сяброў індзейцаў, якія жывуць літаральна пад вулканам.

Пакуль даехалі, зусім сцямнела. Мы выпілі прыгатаваную гаспадыняю какаву, адзелі пончa і пайшлі слухаць вулкан. Напэўна, самае неверагоднае, што мне даводзілася чуць за сваё жыццё. Стаім у поўнай цемры, паўз нас ціха праплывае туман. І дзесьці там, у ім, хтосьці невідомы і вялікі раздзімае велічэзнае вогнішча.

### У эквадорскіх джунглях

Дабірацца з Эквадора ў Перу мы вырашылі праз джунглі па рэчцы Санцьяга, якая ўпадае ў Амазонку. Гэтая зона пільна ахоўваецца войскам, і простым смяротным туды можна трапіць толькі з дазволу губернатара муніцыпалітэта ў горадзе Макас. Туды мы і скіраваліся.

Пасля нядоўгай размовы супрацоўнікі міграцыйнага офіса ў Макасе цвёрда нам заявілі: «Гэта немагчыма». Аднак яшчэ троху — і адзін з іх, пасадзіўшы нас у паліцэйскую машыну, паехаў да губернатара. Праз некалькі гадзінаў у нас быў даз-



**Эквадор**

супастаўная памерам з Беларуссю краіна на паўночным захадзе Паўднёвай Амерыкі. Плошча — 283 тыс. кв. км, насельніцтва — 13 млн чалавек. Незалежнасць ад Іспаніі Эквадор атрымаў у 1822, нейкі час быў часткай Вялікай Калумбіі Сымона Балівара.

У 1941 Эквадор ваяваў з Перу за тэрыторыі ў дэльце Амазонкі. Вайну прайграў.

Мае багатыя нафтавыя радовішчы. Зручнасць транспартавання (выхад да акіяна) і блізкасць ЗША робіць нафтаздабычу асноўнай крыніцай прыбытку краіны. У 1971 пасля вайсковага перавароту на чале з Радрыгесам Ларам краіне ўдалося абмежаваць уплыў замежных нафтавых кампаній і ўзяць нафтаздабычу пад кантроль.

Абвал цэнаў на нафту выклікаў дэфолт у Эквадоры. Дзяржава зноў вымушаная была пусціць у нафтаздабычу замежныя кампаніі.

У 2006 прэзідэнтам Эквадора быў абраны Рафаэль Карэа. Раней ён быў міністрам фінансаў, але яго выгналі з урада. Малады эканаміст, які вучыўся ў Еўропе і ЗША, паабяцаў выкінуць з краіны замежныя нафтавыя кампаніі і не плаціць замежную пазыку (10 млрд даляраў). Яго ідэі папулярныя сярод беднякоў, якія складаюць 75% насельніцтва. Карэа — антыамерыканіст і сябар Чавеса. У 2007 прыхільнікі Карэа атрымалі большасць у парламенце і змянілі канстытуцыю краіны. Аднак у 2010, пасля адмены льготаў дзяржслужбоўцам, папуліст Карэа ледзь не быў скінуты эквадорскай паліцыяй, што зладзіла маштабную акцыю пратэсту.




**Аўгіня Манцэвіч**

нар. у Вілейцы ў 1985. Журналістка, блогерка, пісьменніца. Пераможца конкурсу маладых літаратараў імя Уладзіміра Караткевіча ў 2005. Аўтарка кнігі «Графіка». Жыве ў Мінску. Дачка рэдактара «Рэгіянальнай газеты» Аляксандра Манцэвіча. Сястра журналісткі і паэткі Насты Манцэвіч.

**Верасень**

Нар. у Гомелі ў 1985. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт, факультэт геалогіі. Захапляецца фатаграфіяй. Меў персанальную выставу ў Нью-Ёрку. Муж Аўгіні Манцэвіч.

**Кірыла Краўцоў**

Нар. у Гомелі ў 1979. Фатограф. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт транспарту, факультэт эканомікі. Дырэктар «Дызайнерскай студыі Кірылы Краўцова» ў Гомелі.



Праз Анды. Мы ўжо дасведчаныя.



Тыповае жытло ў Эквадоры.



Вайсковы гарадок сярод джунгляў. Эквадор дагэтуль канфліктуе з Перу за памежныя раёны.



Галодныя свінні Перу.



Лысы перуанскі сабака, любімец каралёў інкаў.

вол перайсці мяжу па рэчцы Санцьяга ў Сальдада-Монхе.

Сальдада-Монхе — апошні населены пункт у Эквадоры на мяжы з Перу. Знаходзіцца ў джунглях. Дабіраліся туды аўтаспынам двое сутак. Спачатку нас падвёз француз на машыне з французскімі нумарамі.

Ноч правялі ў маленькім гарадку, дзе жыве каля двух тысячаў чалавек. Папрасіліся пераначаваць у адной з хатаў. Праз некалькі хвілінаў ля нас ужо сабралася ўся вуліца: і дзеці, і дарослыя засыпалі пытаннямі і прасілі сыграць ды праспяваць яшчэ. Тутэйшае жытло хатамі цяжка назваць. Так, халупа, збітая з дошак.

## Аграгарадкі па-эквадорску

Тут, у джунглях, амаль усе хаты такія. Удзень у спякоту праз шчыліны ходзіць вецер. А ноччу нават у доме мясцовых спяць пад маскітнікам: камары, матылькі ды іншыя дзіўныя насякомыя не даюць спакою. На газ тут кожная сям'я траціць прыкладна два даляры ў месяц, капейкі за электрычнасць — вось і ўсе камунальныя плацяжы.

На наступны дзень мы злавілі машыну, якая везла нас амаль цэлы дзень і высадзіла за кіламетраў пяць ад Сальдада-Монхе. Дарогу сюды нядаўна прарэзалі ў гарах. Паўсюль — машыны і рабочыя, якія возяць камяні і заліваюць навюткую дарогу асфальтам.

Апошнія кіламетры давялося ісці пешшу. Вось ужо джунглі нас абступаюць: невядомыя птушкі спяваюць дзіўныя песні, на вялізных зялёных лістах сядзяць багамолы. Дарога зусім скончаецца — здаецца, тут праход праз скалы прасеклі толькі паўгадзіны таму. Імжыць дождж, мы ідзём, ледзь не па калена грэзнучы ў гліне.

Тут джунглі расступаюцца і мы бачым карціну: невялікая прагалінка з казармай, валейбольная сетка і дзясятак салдатаў гуляе пад дажджом у валейбол. Сальдада-Монхе.

Пра чаўны, якія адплываюць па рэчцы ў Перу, тут ніхто не чуў. І мы зноў вяртаемся па джунглях і пад дажджом да бліжэйшай вёсачкі — Санцьяга.

Дзіўна, што за ўвесь час, які мы ехалі да Сальдада-Монхе і распытвалі дарогу, нас ні разу ніхто не запытаў, што нам там трэба. А проста тлумачылі, як туды патрапіць. Дарэчы, тут у Эквадоры нам спыняюцца кожны. Нават калі ён нікуды не едзе, аднак проста хоча дапамагчы, расказаць, калі будзе наступны аўтобус альбо якія шляхі лепшыя.

У вёсцы Санцьяга знайшоўся маленькі порт. Шэсць перавозчыкаў з галоднымі вачыма сталі наперабой прапаноўваць нам свае паслугі (турысты тут не бываюць). «Колькі каштуе даплысць да бліжэйшай вёскі ў Перу — Дос-дэ-Маё?» — пытаемся мы. «65... 80... 150 баксаў! — цвёрда гаворыць самы галоўны з іх. — І ніякіх размоваў. За менш вас ніхто не павязе». На гэтым размовы і скончыліся.

Аднак мы вырашылі параспытваць мясцовых. І даведаліся, дзе жыве лодачнік Альмеда, які возіць людзей да Дос-дэ-Маё за 25 даляраў.

І вось мы ўжо ў ягонай хаце — нас сустракае вялікая сям'я. Уважліва выслухоўваюць і кажуць, што Альмеда паехаў у горад і вернецца вечарам. Мы вырашылі пачакаць і за гэты час разнаёміліся з усёй сям'ёй Альмеда — індзейцамі ўшуарамі. Праз некалькі гадзінаў мы былі ледзь не найлепшымі сябрамі, гулялі разам і спявалі.

Сястра Альмеда з цікаўнасцю разглядае фоткі з Беларусі. Паказвае пальцам на снег і пытаецца: «Як гэтая штука называецца?» А потым сама ўспамінае: «Снег!» — і шчыра радуецца ды смяецца.

## Піце чычу

Вучаць нас паводзіць сябе з мясцовымі. «Калі вам прапануюць выпіць чычу, абавязкова пагаджайцеся. Калі адмовіцеся — больш вам ні ў чым не дапамогуць. Аднак спачатку прапануйце выпіць таму, хто вас частуе. Бо чыча можа быць атручаная. Такая традыцыя», — дадаюць.

Позна ўвечары вярнаецца Альмеда. Яшчэ здалёк мы пазнаём яго. Гэта адзін з тых шасці лодачнікаў, які загнуў нам сёння цану 150 баксаў. Альмеда нават не выходзіць да нас паразмаўляць. Праз нейкі час да нас падыходзіць ягоная сястра і кажа, што ён пагадзіўся завезці нас за 50 баксаў, не менш. Мы адмаўляемся ў надзеі, што заўтра Альмеда перадумае і скіне цану яшчэ хаця б на баксаў 10, і застаёмся тут жа начаваць.

Наступнай раніцай паехалі ў найбліжэйшы горад — Тыуінса, каб паставіць штампікі аб выездзе з Эквадора. Аказалася, што там іх не ставяць, а дзе ставяць — невядома. Да таго ж, нам сказалі, што, каб дабрацца праз раку Санцьяга да Лімы ў Перу, нам спатрэбіцца не менш за месяц. А час падціскаў. І, акрамя таго, у нас ужо заканчваўся дазвол на знаходжанне ў гэтай зоне. І мы вырашылі вяртацца назад ды ехаць у Перу іншым шляхам.

Спачатку я засмуткавала, што так і не ўдалося патрапіць у сапраўдныя джунглі да сапраўдных індзейцаў. Аднак потым падумала, што тут, куды дарогу з цывілізацыі толькі пачалі будаваць, а тэрыторыя ахоўваецца вайскоўцамі, і жывуць сапраўдныя індзейцы ў сапраўдных джунглях. І з імі мы толькі што правялі незабыўны час.

## С...е Перу

Чым бліжэй да мяжы з Перу, тым горшым станавіўся Эквадор. Цэны на ежу ўзраслі ўдвая, кіроўцы аўто сталі прасіць грошай за аўтаспын. Кіламетраў за 50 ад мяжы пераначавалі на вайсковым блокпасце. І толькі калі ўехалі ў Перу, зразумелі, для чаго пасярод пустэлі ў Эквадоры стаялі жаўнеры з аўтаматамі.

Пасля Эквадора Перу — поўная ж..а. Пустэля, кучы смецця. На гэтым смецці стаяць гарады, гуляюць дзеці. Рэчкі, поўныя смецця, смярдзяць так, што іх лепш пераходзіць, заціснуўшы нос. На ўзбочынах раскладаюцца трупы пацукоў, сабак. Адзінокія і худыя свінні, аслы ды козы ад голаду літаральна грызуць асфальт.

Перу стала першай краінай на нашым шляху, дзе кожнага кіроўцу трэба папярэджваць аб адсутнасці ў нас грошай. Ніяк не чакалі гэтага ад распіяранай турыстычнай краіны з яго Мачу-Пікчу і Тытыкакай.

## Ноч на рысе

Першы горад, у які мы скіраваліся, — Піура. Тут некалькі дзён таму ў дзяўчыны Кірылы Наталі, якая прыляцела да яго на месяц, скралі заплечнік. У ім былі і касеты з нашым фільмам, якія мы перадалі праз Наталю ў Беларусь. Восем касетаў з відэа, пачынаючы ад Мексікі і заканчваючы Эквадорам.

Хутка знайшлі барыгаў, якія падахвоціліся дапамагчы нам за пэўную плату. Аднак касеты, якія нікому акрамя нас не патрэбныя, даўно ўжо былі дзесьці на сметніцы. І нават той, хто іх скраў, ужо не мог іх нам вярнуць.

У Піуры да нас з Вераснем і Алісай далучыўся Калюня. І адтуль мы ўчацвярых паехалі па ўзбярэжжы Ціхага акіяна на поўдзень. Чым далей ад мяжы, тым стоп станавіўся лепшы. Чарговая машына, якая нам спынілася, — грузавік з мяшкамі рысу. У кабіне месца для нас чацвярых не знайшлося. І мы разам з заплечнікамі загрузіліся наверх на рыс.

Калі сцямнела, кіроўца вынес нам ліхтарык і загадаў кожныя пяць хвілінаў свяціць ва ўсе бакі, каб ніхто не скраў рысу. Было незразумела, хто можа сцягнуць рыс з машыны на хаду. Але просьбу спраўна выконвалі.

Чарговы прыпынак машыны, якая везла нас у Трухільё, расцягнуўся на ўсю ноч. Кіроўца нават не выйшаў і не папярэдзіў нас, што тут нам і давядзецца начаваць. Так мы правялі ноч пад адкрытым небам, на мяшках з рысам у гатэлі тысяча зорак. Раніцай мы ўжо былі ў Трухільё.

## Пясчаны горад

Кампенсаваць дрэннае ўражанне ад Перу мы вырашылі ў старажытным пясчаным горадзе Чан-Чан. Відовішча аказалася сапраўды захапляльным.

Але як толькі мы заплацілі па 11 соляў (каля 4 баксаў) за ўваход у турыстычную частку старажытнага горада, нас чарговы раз спасцігла расчараванне. Адбудаваны і вылеплены наноў Чан-Чан захацелася тут жа пакінуць.

І мы паехалі на пляж. Акіяна не бачылі з Панамы. Аднак і акіян нас таксама расчараваў. Нягледзячы на тое, што сонца ў зеніце паліць бязлітасна, вакол пустыня, вада ў акіяне ледзяная. Гэта цячэнне Гумбальта, якое прыплывае сюды з Антарктыкі.

## Лысы сабака — нацыянальная каштоўнасць

А гэта — лысы перуанскі сабака, любімец каралёў інкаў. З'яўляецца нацыянальнай каштоўнасцю Перу і знаходзіцца пад пільнай аховай. Навобмацак, дарэчы, вельмі непрыемны.

У неспатольным жаданні пабачыць у Перу хоць нешта вартае, на наступны дзень мы вырушылі на дзюну. Высачэзная пясчаная гара глядзела на нас зверху, і мы, нічога асаблівага не чакаючы, кінулі ў кустах сярод смецця свае рэчы і рушылі наверх.

Падымацца аказалася не прасцей, чым на Пічынчу. Хоць дзюна і была ніжэйшай за папярэднюю нашую гару, аднак мы не ўлічылі, што сонца моцна награвае пясок, і рушылі наверх у шлёпках на голую нагу. Самым трывалым аказаўся Калюня, які намотаў на адну нагу шалік, на другую — майку і забраўся на вяршыню пад самым сонцапёкам. Мы з Вераснем і Алісай пайшлі ў абыход з таго боку, дзе сонца яшчэ не нагрэла пясок.

І вось яна, вяршыня. Нашыя пакуты былі вартыя таго. Перу ў нашых вачах пачало рэабілітоўвацца.

Спусціліся брудныя, потныя, усе ў пяску. Мясцовыя жыхары без праблемаў пусцілі нас памыцца ў душы.

Наперадзе нас чакалі Анды.

**Сачы за падарожжам ужывую на users.livejournal.com/litota_ і euroradio.by.**




## КАНЦЭРТЫ

### J:Морс: Рэальнае каханне

**13 лютага ў клубе «Рэактар» (вул.Харужай, 29б) а 19-й** — канцэрт гурта J:Морс з праграмай «Рэальнае каханне».

### Трыб'ют The Beatles

**20 лютага ў 18.00 у мінскім клубе «Мулен Руж» (вул.Сухая, 2)** беларускія гурты зайграюць песні ліверпульскай чацвёркі. Выступаюць: **Artefact**, **Love Is…**, **The Apples**. Квіткі каштуюць 20—40 тысяч рублёў. Даведкі: (029) 779-99-18, (029) 179-99-18.

### Памяці «Нірваны»

І яшчэ адзін трыб'ют-канцэрт **20 лютага**. **У 20.00 у «Рэактары»** кампазіцыі гурта Nirvana будуць іграць **Re1ikt**, **Happy Face**, **Karavan** і іншыя. Квіткі каштуюць 20—25 тысяч. Даведкі: (029) 649-08-88, (029) 851-77-06.

## ІМПРЭЗЫ

### Нацыянальны Балет Грузіі «Сухішвілі»

**10 лютага ў Палацы Рэспублікі** выступіць калектыў, які называюць візітоўкай Грузіі. Ансамбль складаецца з 70-ці танцораў і аркестра. Чалавек, які ніколі не быў у Грузіі і нічога не ведае аб краіне, пасля спектакля атрымае ўражанне, што ён як быццам пабываў у Грузіі, прычым на працягу некалькіх стагоддзяў. Іх танец кідае выклік законам гравітацыі. Яны сапраўды ўмеюць лунаць над сцэнай. Кошт квіткоў — ад 80 да 260 тысяч. Даведкі: (017) 298-03-29; 328-37-86.

### Альгерд Бахарэвіч

**Кнігарня «ЛогвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37а)** запрашае **9 лютага** на творчую сустрэчу з празаікам Альгердам Бахарэвічам. Гэта ўнікальная магчымасць паслухаць творы ў выкананні аўтара, задаць пытанні і атрымаць аўтограф.



**Пачатак а 19-й.** Уваход вольны.

### Дзень святога Валянціна: Кахаем па-беларуску

**13 лютага ад 13 да 15-й Музей народнай архітэктуры** запрашае на лірычна-гумарыстычную праграму «Кахаем па-беларуску». У праграме вы зможаце даведацца аб традыцыйным стаўленні беларусаў да кахання, шлюбу, сям'і. Музей знаходзіцца за 4 км ад МКАД за аўтарынкам «Малінаўка» і вёскай Азярцо. Праезд: ад аўтастанцыі «Паўднёва-Заходняя» аўтобусамі ў кірунку: Мінск—Гарадзішча, Дубянцы, калгас Калініна, Заходнія могілкі. Расклад руху: аўтобус №203 — 9.15, 12.00 — на тэрыторыю музея; аўтобусы №262, 363, 277, 325, 357 — 9.40, 10.00, 10.28, 11.35, 12.20, 14.15, 14.55, 15.05 — да прып. «Музей».

### Народзіны Александроўскай у Оперы

**У камернай зале Оперы 18 лютага ў 19.30** — канцэрт «Памяці вялікай спявачкі», прымеркаваны да 107-годдзя з дня народзінаў Ларысы Александроўскай. Прагучаць арыі і дуэты з опер Моцарта, Даніцэці, Вэрдзі, Бізэ, Пучыні, Сэн-Санса, Мусаргскага, Чайкоўскага, Смольскага.

### Вечар памяці Чэслава Немэна

**14 (і, магчыма, 15) лютага ў Палацы мастацтва (вул.Казлова, 3)** — вечар памяці Чэслава Немэна, нашага земляка, які стаў адным з самых вядомых музыкаў Еўропы. **Пачатак а 18-й.**

## ВЫСТАВЫ

### Павел Валынцэвіч. Фоталетапіс даўжынёю ў паўстагоддзя

**У Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12) да 3 лютага** працуе выстава фотаздымкаў першай паловы XX стагоддзя, аўтар якіх — праваслаўны святар Павел Валынцэвіч. Асноўную частку экспазіцыі складаюць фотаздымкі, выкананыя з аўтэнтычных негатываў аўтара, акрамя гэтага вашай увазе прапануюцца лічбавыя копіі аўтарскіх фотаздымкаў з сямейнага архіва і прыватных калекцыяў. Самы стары негатыў датуецца 1900 годам, апошні — 1949—1953-м.

### Думка беларуская

**У мастацкай галерэі твораў Леаніда Шчамялёва (пр. Ракасоўскага, 49) да 1 сакавіка** працуе канцэптуальная выстава «Думка беларуская» Ігара Пешахонава-Міцкевіча. «Думка беларуская» — выстава пра чалавека як адзінку вымярэння беларускага краявіду. Без гэтых самотных, амаль нерухомых фігур чалавека мы не адчуем голасу прыроды.

### Каханне ды інш.

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава твораў Андрэя Скіцёва «Каханне ды інш.». Чалавек, чалавечыя пачуцці — гэта тое, што найперш хвалюе аўтара ў навакольным свеце.

### ПраСвет

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47) да 12 лютага** працуе выстава жывапісу Рыгора Іванова «ПраСвет».

### Цацкі з валізы. Дзецям 1960—1980-х прысвячаецца…

**У Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (пр. Незалежнасці, 25а) да 15 сакавіка** працуе выстава «Цацкі з валізы», прысвечаная дзецям 1960—1980 гадоў. Мінчукам і жыхарам іншых гарадоў прапанавана пашукаць у сябе дома ўлюбёныя цацкі — старых лялек, жаўнерыкаў, калейдаскопы, ваўчкі, чыгункі і іншыя скарбы свайго дзяцінства.

### Мастацтва Узбекістана

**У Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20) да 24 лютага** працуе выстава «Мастацтва Узбекістана».

### У гонар Мулявіна

**У Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав. Музычны, 5) да 12 лютага** працуе выстава, прысвечаная Уладзіміру Мулявіну.

### Генадзь Драздоў

**У галерэі «Ласандр-арт» (вул. Раманаўская слабада, 24) да 19 лютага** — персанальная выстава Генадзя Драздова. Графіка, жывапіс, кераміка.

## ТЭАТРЫ

**9 лютага**

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Купалаўскі** (Малая сцэна) — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»
**Беларускай драматургіі** — «Хто пакахае мадам»
**Горкага** — «Рускія вадэвілі»
**Оперы і балета** — «Багема»

**10 лютага**

**Горкага** — «Перад заходам сонца»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Купалаўскі** — «Хам»

**11 лютага**

**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Оперы і балета** — «Дзікае паляванне караля Стаха»
**Горкага** — «Уяўны хворы»

**12 лютага**

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Іаланта»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»
**Горкага** — «Распуснік»

**13 лютага**

**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Тры парсючкі»
**Горкага** — «Эдып»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Горкага** — «Свабодны шлюб»

**14 лютага**

**Купалаўскі** — «Не мой»

**15 лютага**

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Горкага** — «Сыходзіў муж ад жонкі»

**16 лютага**

**Беларускай драматургіі** — «Раман+Юлія»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Оперы і балета** — «Набука»

**17 лютага**

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі»
**Горкага** — «Вяселле Крачынскага»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраунд»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Оперы і балета** — «Набука»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

**18 лютага**

**Лялек** — «Дом, які пабудаваў Свіфт»
**Оперы і балета** — «Шапеніяна. Пахіта. Трыстан і Ізольда»
**Горкага** — «Вяселле Крачынскага»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Беларускай драматургіі** — «Бязвінная смерць аннушкі, альбо буржуй у бутэльцы»

**19 лютага**

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Трывалы алавяны жаўнерык»
**Беларускай драматургіі** — «Яго апошняе каханне (Лета)
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»

**20 лютага**

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Чароўная Музыка»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Карміна Бурана. Кармэн-сюіта»

## КІНО

# Пячорныя людзі

**Санктум** (Sanctum)

ЗША — Аўстралія, 2010, каляровы, 3D, 109 хв.

**Рэжысёр:** Алістэр Грырсан

**Жанр:** Прыгоды

**Адзнака:** 7 (з 10)




Група дайвераў спускаецца ў глыбокую пячору. Але трапічны цыклон адсякае ім шлях наверх. У герояў ёсць шанец выбрацца, калі яны знойдуць шлях да акіяна, абмінаючы небяспечныя падводныя пасткі.

Карціна, спрадусаваная Джэймсам Кэмеранам, — суровыя прыгоды ў экстрэмальных умовах. Заблытаныя чорныя лабірынты, невядомыя хваробы, бяздонныя правалы, падземная рака-мясакрутка павышаюць стаўкі гульні. Цана — жыццё.

Але, хаця фільм пастаўлены паводле рэальных падзей, што адбыліся са сцэнарыстам карціны Эндру Уайтам, карціна — рытуал з пячорнай ідэалогіяй.

У пячорах разыгрываецца бязлітасная барацьба за выжыванне. Спачуванне паслядоўна дыскрэдытуецца, бо прыводзіць да слабасці. Эўтаназія ўзводзіцца ў абсалют. Галоўны герой вучыць сына, што Бога няма, дый абвяшчае сябе пячорным стодам. А кожны стод патрабуе ахвяраў…

Ніцшэанскія ідэі знайшлі ўвасабленне ў 3D-фармаце.

**Андрэй Расінскі**

# Электронныя планшэты замест падручнікаў

хоча ўвесці Міністэрства адукацыі. Разбіраўся карэспандэнт «НН».

Міністэрства адукацыі выступіла з нечаканай інавацыйнай прапановай — замяніць школьныя падручнікі на электронныя планшэты. У памяці прылады мае захоўвацца інфармацыя з усіх падручнікаў за 1—11 класы. Такую ідэю агучыў першы намеснік міністра адукацыі Аляксандр Жук. Згодна з яго словамі, праект будзе запушчаны спачатку ў адной з абласцей, а пасля пашырыцца на ўсю краіну.

Што такое планшэты, або планшэтныя камп'ютары? Гэта маленькія камп'ютары з сэнсарным экранам, за якімі працуюць без клавіятуры і мышкі. На экран націскаюць пальцамі або стылусам — стрыжнем з завостраным канцом.

## Даць працу «Інтэгралу»

Галоўная мэта праграмы — ашчаджэнне дзяржаўных грошай. Чыноўнікі падлічылі, што калі хаця б часткова адмовіцца ад выпуску падручнікаў, можна захаваць $7 мільёнаў. І ў дадатак нагрузіць працай «Інтэграл» і БДУ з БДУІРам. На завод хочуць «павесіць» выпуск новых гаджэтаў, а на ўніверсітэты — распрацоўку праграмнага забеспячэння.

Вось толькі ніхто, апроч Міністэрства адукацыі, нaконт ідэі вытворчасці планшэтаў — ні сном ні духам. Не адмаўляючы саму ідэю выпуску такога абсталявання, супрацоўнікі «Інтэграла» тактоўна намякаюць: нас без нас ажанілі. «Ніхто нават тэарэтычна не пралічваў магчымасць выпуску «навучальных планшэтаў», — паведамляюць у аддзеле збыту прадпрыемства. У інтэрнэце з'яўляюцца меркаванні, што выпуск «беларускіх» планшэтаў можа звесціся да наклейвання цэтліка «Інтэграл» на мадэлі кітайскай вытворчасці. Так ужо бывала, напрыклад, з маніторамі. Пакуль завод не мае ні адпаведных тэхналогій, ні вытворчых магчымасцяў.

## А калі электронная кніга?

Што да ашчаджэння бюджэтных сродкаў, то варта параўнаць пакупку аднаго планшэта з сумай за карыстанне адзінаццаццю камплектамі падручнікаў за кожны клас. Па леташніх расцэнках бацькі вучня выдаткоўвалі 210 тысяч рублёў ($70) за ўсе гады навучання. У каталозе інтэрнат-крамаў shop.by самы недарагі планшэтны камп'ютар каштуе каля 500 тысяч рублёў — 170 даляраў. Але ёсць яшчэ адзін варыянт, які можа замяніць падручнікі, — электронная кніга коштам ад $120.

У яе існуе істотная перавага перад планшэтамі — зрок школьнікаў будзе псавацца не так хутка. Напрыклад, амерыканская анлайн-кнігарня amazon.com прапануе электронныя кнігі Kindle экранам e-ink за $139 з убудаваным wi-fi. Пры выкарыстанні гэтай тэхналогіі экрана вочы стамляюцца не больш, чым ад чытання звычайнай папяровай кнігі.

## Сінгапур хваліць, Расія лае

Праект можа цалкам запрацаваць не раней, чым праз дзесяць гадоў, прызнаюць у Мінадукацыі. Чыноўнікі абяцаюць улічваць досвед іншых краінаў. Напрыклад, Сінгапура і Паўднёвай Карэі. Там пачалі рэалізоўваць падобны праект тры гады таму. «Паддоследнымі трусікамі» сталі вучні пачатковых класаў. З падобнымі прапановамі выступалі і казахстанскія чыноўнікі. А вось у Расіі праект «планшэтызацыі» сябе не апраўдаў.





Электронная кніга за $139.



Можна закупіцца і АйПадамі за $1000.

**Што такое планшэтныя камп'ютары?**

Гэта маленькія камп'ютары з сэнсарным экранам, за якімі працуюць без клавіятуры і мышкі. На экран націскаюць пальцамі або стылусам — стрыжнем з завостраным канцом.

Сама ідэя пераходу ад папяровых падручнікаў да камп'ютарных выглядае цікавай і захапляльнай. З цягам часу яна ўсё адно мусіць рэалізавацца. Вось толькі зараз такі пераход упрэцца ў процьму невырашальных пытанняў. Што рабіць з тэхнічным абслугоўваннем планшэтаў, бо немалядыя настаўнікі наўрад ці разбяруцца ў іх. Як не апынуцца ў сітуацыі, што дзеці на ўроках будуць гуляць у стралялкі? Як, урэшце рэшт, гарантаваць, што падчас перапынку планшэт не зваліцца з парты і бацькоўскія $300 не разаб'юцца аб падлогу беларускай школы?

**Віталь Несцераў**

СПОРТ

# БАТЭ згуляе з французамі ў 15-градусны мароз

Паступілі ў продаж білеты на матч 1/16 фіналу футбольнай Лігі Еўропы паміж барысаўскім БАТЭ і ПСЖ (Францыя).

Касы мінскага стадыёна «Дынама» працуюць ад 10.00 да 19.00, барысаўскага гарадскога стадыёна — ад 10.00 да 18.00.

Квіткі першай катэгорыі (сектары — 1, 2, 13, 14, 28, 29) будуць каштаваць 30 тысяч рублёў, другі (3, 4, 12, 15, 26, 27) — 20 тысячі і трэцяй (05—11, 16 — 25) — 10 тысяч.

У касах стадыёна «Дынама» будуць прадавацца квіткі на наступныя сектары: 1 (ад 19-га шэрагу і вышэй), 7—27 (ад 12-га шэрагу і вышэй), 28—29 (ад 15-га шэрагу і вышэй). Квіткі на шэрагі 01—11 усіх сектараў не друкаваліся і ў рэалізацыю паступаць не будуць.

Матч БАТЭ — ПСЖ пройдзе на мінскім стадыёне «Дынама» 17 лютага (пачатак а 20-й). Папярэдні прагноз надвор'я на гэты дзень –15 градусаў марозу.

Нагадаем, такая тэмпература паветра была 2 снежня, калі БАТЭ прымаў кіеўскае «Дынама».

**АГ**




Віктар Ганчарэнка трэніруе каманду.

МОВА

# Пасведчанне кіроўцы па-беларуску? Было б жаданне

Пры жаданні кіроўцы новыя пасведчанні павінны афармляцца па-беларуску, запэўніў карэспандэнта «НН» старшы інспектар аддзела прапаганды бяспекі дарожнага руху і міжведамаснага ўзаемадзеяння Упраўлення ДАІ Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Станіслаў Салавей.

«Новыя пасведчанні запаўняюцца па-расійску, па-англійску і па-беларуску, — растлумачыў ён. — У залежнасці ад свайго жадання, кіроўца можа выбраць расійскую ці беларускую мову дакумента».

Новыя пасведчанні кіроўцы выдаюцца ў Беларусі з 1 лютага. У першы ж дзень у будынках ДАІ сабраліся шматсоценныя чэргі ахвотных абмяняць свае дакументы.

**ВН**

КОЛЫ

# На дарогах з'явіцца псеўдааб'ёмная разметка

Выкарыстоўваць яе рэкамендуе дарожнікам ДАІ. Сутнасць псеўдааб'ёмнай разметкі простая: пешаходны пераход і падыход да яго пазначаюцца звычайнай фарбай белага, жоўтага і чырвонага колераў. Аднак пры набліжэнні да яго складаецца ўражанне, што на асфальце — асобныя блокі, прыўзнятыя над праезнай часткай. Гэта прымушае вадзіцеляў зменшыць хуткасць. Такая разметка ў якасці эксперыменту была выканана на аварыйна-небяспечных участках трас Мінск — Гомель, Мінск — Магілёў, а таксама перад небяспечным закругленнем на аўтадарозе Мінск — Віцебск пад Плешчаніцамі.

**БелаПАН**

## Сапраўдная беларуская кухня

### Калдуны з бульбы

1 кг бульбы, 1 цыбуліна, 3 ст. лыжкі мукі, 1 яйка, соль, чорны молаты перац, алей для смажання.

Для начынкі: 250—300 г мяснога фаршу (лепш сумесь свінога і ялавічнага) або 100 г сухіх грыбоў, 2 цыбуліны, 1 морква.

Калдуны з бульбы — гэта дранікі з начынкай.

Бульбу абабраць, цыбулю ачысціць і нацерці іх на дробнай тарцы альбо з дапамогай кухоннага камбайна. Зліць залішнюю ваду, трохі адціснуўшы пры гэтым бульбяную масу. Дадаць соль, яйка і муку, перамяшаць.

Браць лыжкай бульбяную масу, класці яе на руку, у сярэдзіну класці начынку, фармаваць пляскаты піражок і смажыць на патэльні на разагрэтым алеі да гатоўнасці.

Начынка можа быць з мяснога фаршу, прыпраўленага па густу спецыямі, або з адвараных, парэзаных грыбоў, падсмажаных з нарэзанай колцамі цыбуляй і нацёртай на буйной тарцы морквай.

Гатовыя калдуны скласці ў таўстасценны рондаль, перакладаючы падсмажанай на сале або масле цыбуляй, і ненадоўга паставіць у гарачую духоўку.

Падаваць са смятанай.

**НБ**



## Кемікі

1) Маем лічбы 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9. Трэба так расставіць арыфметычныя знакі, каб у адказе было 100.

2) Як, ужываючы пяць разоў лічбу 9, атрымаць лік 10?

Сабрала Валянціна Карнялюк.

Адказы глядзі на старонцы 16.




Але за прафілактыку чаго выступае гэты бігборд, усталяваны ў Мінску на замову МУС?



Грамніцы — зімы палавіцы. 2 лютага Грамніцы адсвяткавалі каталікі, 15 лютага адсвяткуюць праваслаўныя.



Расійская моладзь з арганізацыі «Абарона» зладзіла акцыю салідарнасці з беларусамі «Сняданак для Лукашэнкі». Удзельнікі прынеслі ў беларускае консульства слоікі з тушонкай, на якіх былі напісаныя прозвішчы экс-кандыдатаў у прэзідэнты. Таксама яны мелі партрэт Лукашэнкі ў кароне і з цёмным тварам — яўны намёк на імператара Бакасу. У консульстве маладым людзям заявілі, што такую перадачу для кіраўніка Беларусі прыняць не могуць.



Беларускі фрыстайліст Максім Гусцік трэніруецца перад выступленнем на этапе Чэмпіянату свету ў Парк-Сіці (ЗША).



Французскі фатограф Саша Гальдбержэ зрабіў серыю фота сваёй бабулі ў вобразе супергероя, каб дапамагчы ёй адолець дэпрэсію. Пані Фрэдэрыка нарадзілася ў Будапешце ў 1919-м. У вайну, рызыкуючы жыццём, яна ратавала яўрэяў ад нацысцкага пераследу. Перажыўшы нацызм і камунізм, пераехала з Венгрыі ў Францыю.

**У аэрапорце? У машыне? У метро? Чытай pda.nn.by з мабільніка**

Трымайце руку на пульсе pda.nn.by, дзе б Вы ні былі. НН.Бай забяспечвае аператыўныя і аб'ектыўныя навіны, ясныя каментары і аналіз, аўтарскія відэа і фоты. Усім гэтым Вы можаце карыстацца з мабільнага тэлефона. Праз ПДА-версію Вы можаце сачыць за навінамі і каментарамі, ашчаджаючы трафік. Яна зручная і сціслая.

## Анекдоты

* * *

— Ці будзе праводзіцца следчы эксперымент на плошчы Незалежнасці ў працэсе расследавання справы аб «масавых беспарадках»?

— Так, будзе — 25 Сакавіка.

* * *

Пасля вызвалення пад хатні арышт Халіп і Някляева Лукашэнку трэба дазволіць уезд у Еўрасаюз. Але толькі ў суправаджэнні двух апазіцыянераў, не пакідаючы сваёй машыны, не падыходзячы да вокнаў і не карыстаючыся сродкамі сувязі.

* * *

Акцыя салідарнасці! Абвяшчаецца збор сродкаў для 157 беларускіх чыноўнікаў, якіх Еўрасаюз уключыў у спіс неўязных у ЕС. Адправім пацярпелых на адпачынак у Туніс і Егіпет!

* * *

У Егіпце забурэнні: дэманстрацыі, рэпрэсіі, адключэнне інтэрнэту па ўсёй краіне... Бландзінка слухае, слухае, а пасля пытаецца: «Света, гэта што, усё з прычыны той акулы?»

* * *

Калі мама лічыць, што вы зашмат ясце і зашмат спіце, значыць, гэта не ваша мама, а яе мама.

* * *

Цікава, каму і які трэба даць хабар, каб і сапраўды пачалася барацьба з карупцыяй.

* * *

— Ну чаму ўся іншая ежа не можа ўсплываць па меры гатовасці, як пельмені?..

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Мексіцы рэвалюцыя.** Рэвалюцыянеры біліся з урадавымі войскамі цэлых 12 гадзін. І тыя, і другія маюць вялікія страты ў людзях. Перамаглі паўстанцы.

**«НН». № 7. 1911.**

**Пазняк судзіцца з Вячоркам.** У Гаспадарчым судзе будзе разглядацца пытанне пра тое, хто мае права на назоў «БНФ» — адна ці другая галіна расколатага руху. Скаргу на Мінюст, які зарэгістраваў і адных як «Беларускі Народны Фронт "Адраджэнне"», і другіх, як «БНФ "Адраджэнне"», падалі пазнякоўцы.

**«НН». №6. 2001.**

**Адказы да старонкі 15:**
1) 1+2+3+4+5+6+7+8×9=100; 2) 99:99+9=10.

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
**Наклад 7005.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 08.02.2011.
Замова № 649.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614